"Царква", № 4 (59), 2008

Падзеі і сьвяты

# «Быць сярод беларускага народу сьведкамі Паўсюднай Царквы»

**Урачыстасьці з нагоды 50-годдзя сьвятарства
мітрафорнага протаярэя Аляксандра Надсана**



Сёлета 82-гадовы вядомы беларускі грэка-каталіцкі сьвятар а. Аляксандар Надсан з Лондану сьвяткуе юбілей свайго сьвятарства. 50 гадоў таму, 23 лістапада1958 году ў Рыме, у царкве сьв. Апанаса Вялікага Грэцкай калегіі італа-албанскі грэка-каталіцкі біскуп Ян Мэнэ з Калабрыі (Італія) удзяліў яму сьв. Тайну сьвятарства, каб вучыў беларусаў праўдам веры, зьдзяйсьняў сьв. Тайны і кіраваў іх духоўным жыцьцём.

22-23 лістапада 2008 году ў Менску праходзіла духоўная праграма сьвяткаваньняў 50-годдзя сьвятарскага служэньня мітрафорнага протаярэя Аляксандра Надсана, Апостальскага Візітатара для беларусаў-католікаў замежжа, на якую прыехаў з Лондану і сам юбіляр. Гэтая праграма добра паслужыла асэнсаваньню асаблівага пакліканьня беларускіх грэка-католікаў, асабліва сьвятароў і семінарыстаў Беларускай Грэка-Каталіцкай Царквы: «Быць сярод беларускага народу сьведкамі Паўсюднай Царквы».



Субота 22 лістапада – гэта быў дзень малітвы і духоўных разважаньняў для сьвятароў і семінарыстаў БГКЦ. Ён распачаўся Паніхідай на Кальварыйскіх могілках, ля магілы першага протапрасьвітара БГКЦ айца Яна Матусевіча. Падчас памінальнай малітвы былі ўзгаданыя таксама і ўсе памерлыя беларускія біскупы і сьвятары.

Цэнтральным пунктам малітоўнай Сінаксы (малітоўнага сходу) грэка-каталіцкіх сьвятароў і семінарыстаў была Боская Літургія ў капліцы Ўсіх сьвятых беларускага народу ў Душпастырскім цэнтры сьв. Язэпа. Яе ўзначалілі мітрафорны протаярэй Аляксандар Надсан – Апостальскі Візітатар для беларусаў-католікаў замежжа, і архімандрыт Сяргей (Гаек), Апостальскі Візітатар для грэка-католікаў Беларусі.

Вечарам, 22 лістапада, абодва апостальскія візітатары, у суправаджэньні протапрасьвітара Андрэя Абламейкі, былі прынятыя Апостальскім Нунцыем у Беларусі – Высокадастойным Архібіскупам Марцінам (Відавічам).



Падзячную Боскую Літургію ў 50-тыя ўгодкі сваіх сьвятарскіх сьвячаньняў мітрафорны протаярэй Аляксандар Надсан адслужыў у нядзелю, 23 лістапада 2008 году, у менскім касьцёле сьвятых Сымона і Алены. Ён узначаліў Боскую Літургію ў саслужэньні архімандрыта Сяргея (Гаека), Апостальскага Візітатара для грэка-католікаў Беларусі, і парахаў менскіх грэка-каталіцкіх парафіяў: протапрасьвітара а. Андрэя Абламейкі, а. Казіміра Ляховіча, а. Пахома Кавалёва ды а. Яўгена Ўсошына. Разам з імі саслужыў дэкан Серабранскага рыма-каталіцкага дэканату кс. Ігар Лашук. На ўрачыстай Боскай Літургіі ва ўсходнім абрадзе маліліся таксама дапаможны біскуп Менска-Магілёўскай рыма-каталіцкай архідыяцэзіі Дастойны Ўладыка Антон (Дзям’янка) і дэкан кс. Уладзіслаў Завальнюк, пробашч касьцёлу сьвятых Сымона і Алены.


Дастойнага юбіляра прывітаў перад Літургіяй Архімандрыт Сяргей, а Ўладыка Антон павіншаваў яго і выказаў яму ўдзячнасьць за ягоную дзейнасьць для дабра беларускага хрысьціянства і беларускай духоўнай культуры.

У казаньні юбіляр айцец Аляксандар гаварыў пра духоўную вартасьць удзячнасьці за тое, што Госпад дазваляе нам служыць іншым, а асабліва Царкве і Бацькаўшчыне. Шматлікія вернікі, нямала якіх прыехала з іншых грэка-каталіцкіх парафіяў (з Івацэвічаў, Бярозы, Баранавічаў, Мар'інай Горкі, Жодзіна, Барысава, Маладэчна), успрынялі гэтыя словы як каштоўны запавет.


Напрыканцы багаслужбы было зачытанае віншаваньне, якое даслаў Высокадастойны Мітрапаліт Менска-Магілёўскі Тадэвуш (Кандрусевіч).

Дастойнага Юбіляра павіншавалі таксама прадстаўнікі менскіх грэка-каталіцкіх парафіяў: Праведнага Язэпа, Маці Божай Нястомнай Дапамогі, Сьвятога Мікалая і Сьвятога Духа.

Пасьля Боскай Літургіі падчас братэрскай агапы, што мела месца ў Душпастырскім цэнтры сьвятога Язэпа, Уладыка Антон (Дзям'янка) падарыў юбіляру г. зв. «місійны крыж», які ён прывёз з аўстралійскага Сіднэю, з Сусьветнага Дня Моладзі.

**На фота:**

1. Апостальскі візітатар для беларусаў-католікаў у замежжы а. Аляксандар Надсан. (Фота Юліі Дарашкевіч).

2. Менск, 22.11.2008. Айцец А.Надсан са сьвятарамі і семінарыстамі БГКЦ падчас малітвы на Кальварыйскіх могілках.

3. Урачыстая Літургія ў капліцы Ўсіх Сьвятых беларускага народу.

4. Менск, 22.11.2008. Айцец А.Надсан на прыёме ў Нунцыя.

5. Біскуп Антон (Дзям'янка) уручае падарунак юбіляру.

Падзеі і сьвяты

# Віншавальнае слова

**Мітрапаліта Мінска-Магілёўскага Тадэвуша Кандрусевіча**

Айцу Аляксандру Надсану,
Апостальскаму візітатару
для беларусаў-каталікаў у замежжы

Глыбокапаважаны айцец Аляксандр!

«Любоў Бога Айца, ласка Пана нашага Езуса Хрыста і дар еднасьці ў Духу Сьвятым няхай будуць з вамі...»

Гэтымі словамі сьвятога апостала Паўла шчыра вітаю Вас і віншую з 80-годдзем з дня Вашага нараджэньня, а таксама з залатым юбілеем сьвятарства. Свае пажаданьні дасылаю з далёкага Лос-Анджэлесу ў Злучаных Штатах Амерыкі, дзе прымаю ўдзел у Кангрэсе Божай Міласэрнасьці.

«Кожны сьвятар, якога выбіраюць з людзей, прызначаны для людзей» (пар. Габр 5, 1),– кажа Апостал Народаў.

Гэтая праўда вельмі добра праявілася ў Вашым сьвятарскім жыцьці. Узяты з Беларусі, Вы, знаходзячыся далёка ад Радзімы – у Лондане, у Англіі,– сэрцам, душой і практычнай дзейнасьцю служылі і надалей служыце нашай супольнай Бацькаўшчыне. Вас добра ведаюць як у Вялікабрытаніі, так і ў Беларусі. Вас ведаюць як адданага Богу, Касьцёлу і Радзіме сьвятара, навуковага дасьледчыка і грамадзкага дзеяча.

50 гадоў сьвятарства – гэта 50 гадоў служэньня Касьцёлу і людзям. Колькі сьвятых Імшаў, споведзяў і іншых сакрамэнтаў, колькі казаньняў, колькі касьцёльнай і чыста чалавечай паслугі было за гэты час! Толькі адзін Бог ведае! Сваім служэньнем Вы настойліва выконвалі тры галоўныя абавязкі сьвятара – абвяшчалі Божае слова, асьвячалі людзей і, у любові служачы, кіравалі імі, каб такім чынам будаваць хрысьціянскую супольнасьць.

З нагоды юбілеяў 80-годдзя Вашага жыцьця і 50-годдзя сьвятарства, якія Вы сьвяткуеце ва ўрачыстасьць Хрыста Валадара Сусьвету ў касьцёле сьвятых Сымона і Алены ў Мінску, ад усяго сэрца жадаю Вам, найдастойнейшы Юбіляр, многіх Божых ласкаў, добрага здароўя, Божага благаслаўленьня і посьпехаў у Вашай дзейнасьці, каб дзякуючы ёй як мага больш людзей пазналі праўду Божую і дасягнулі вечнага шчасьця ў Валадарстве Езуса Хрыста.

Многая лета!

З павагай і благаслаўленьнем

**Арцыбіскуп Тадэвуш Кандрусевіч,**
**Мітрапаліт Мінска-Магілёўскі**

Лос-Анджэлес, 23 лістапада 2008 г.

Слова

# Пастырскае Слова

**Апостальскага Візітатара «ad nutum Sanctae Sedis»**
**для грэка-каталікаў Беларусі**
**на сьвята Раства Хрыстовага 2008 году**
**і на Новы 2009 год Гасподні**

Вялебныя Айцы!
Дарагія Манахі, Манахіні і Браты Семінарысты!
Любыя ў Госпадзе Браты і Сёстры! Паважаныя Сябры!

**Айцец з добрай волі Сваёй захацеў,**
**і СЛОВА СТАЛАСЯ ЦЕЛАМ.**

**Дзева нарадзіла Бога,**
**Які стаўся чалавекам.**
**Зорка абвяшчае, мудрацы пакланяюцца,**
**пастухі дзівяцца,**
**і ўсё стварэньне радуецца.**

*Вячэрня Нараджэньня Хрыстовага*

**1.** Кожны год у час сьвятаў Раства Хрыстовага таямніца Ўцелаўленьня Сына Божага прасьвятляе Бэтлеемскім сьвятлом усё чалавецтва. Сьвятло Бэтлеемскай ночы перамагае цемру духоўнай абыякавасьці ды дапамагае нам сузіраць Нованароджанага Сына Божага – Спрадвечнае Слова, што сталася целам і пасялілася паміж намі (пар. Ян 1, 14 ).

Старажытны візантыйскі богаслужбовы гімн заахвочвае нас да праслаўленьня гэтай вялікай таямніцы:

**Слова спрадвечнае з Айцом і Духам,**
**ад Дзевы народжанае дзеля збаўленьня нашага,**
**усхвалім верныя, і паклонімся Яму** (трапар, тон 5).

Вельмі патрэбна, каб мы мужна і рашуча адкінулі ўсялякую цемру духоўнай абыякавасьці ды шырока адчынілі дзьверы нашых дамоў, месцаў працы і вучобы на нязгаснае Сьвятло Слова Божага, якое абвяшчае нам Сьвятая, Паўсюдная і Апостальская Царква.

**2.** У час сьвятаў Раства Хрыстовага шмат разважаем і гаворым пра любоў як вялікую духоўную каштоўнасьць. І сапраўды, як гэта нагадаў нам Апостальскі Нунцый у Беларусі Высокадастойны Архібіскуп Марцін Відавіч, «заахвочвае нас любоў Хрыста, Які, палюбіўшы сваіх, да канца іх палюбіў» (пар. Ян 13, 1). (Слова да грэка-католікаў Беларусі, Полацак, 13 ліпеня 2008 г.)

Аднак вельмі патрэбна, каб любоў не была толькі прыгожым словам у нашых вуснах, але каб яна праяўлялася ў нашых канкрэтных дзеях. Трэба, каб мы, ахопленыя любоўю Хрыста, любілі нашых бліжніх.

Неабходна шчыра і разумна любіць нашую Бацькаўшчыну, а асабліва беларускую мову і культуру. Толькі такім чынам зможам захаваць нашую тоеснасьць хрысьціянаў Беларусі, сьвядомых свайго пакліканьня ўвасабляць Евангельле Ісуса Хрыста ў беларускую культуру.

Мужна любіць Хрыста і Царкву, верна любіць Беларусь і беларускую мову ды разьвіваць хрысьціянскую культуру незалежнай Беларусі няхай заахвочвае нас творчасьць і прыклад жыцьця выдатнага беларускага пісьменьніка, грэка-каталіцкага сьвятара – айца Язэпа Германовіча, 30-ыя ўгодкі сьмерці якога (26 сьнежня 1978 г.) мы ўзгадваем якраз у гэты Калядны час.

**3.** Дарагія Браты і Сёстры!

У Год сьвятога Паўла (2008/2009) уся Каталіцкая Царква ў Беларусі – лацінскага і візантыйскага абрадаў – хоча асэнсаваць глыбіню праўды, што «Слова Божае – жывое і дзейснае». Гэтае Слова мы ў Беларусі атрымалі больш за тысячу гадоў таму. І амаль ужо паўтысячагоддзя маем Слова Божае ў перакладзе на мову нашага народу.

Да юбілею 500-годдзя выданьня Францішкам Скарынам беларускай Бібліі засталося 9 гадоў. Таму вельмі важна, каб падчас духовай падрыхтоўкі да гэтага юбілею хрысьціяне Беларусі пастаянна адкрывалі багацьце Слова Божага – «жывога і дзейснага» – чытаючы яго на роднай беларускай мове.

Няхай гэта будзе сьведчаньнем нашай жывой веры ў тое, што Бог любіць нашую краіну – Беларусь, і стане бачным знакам адказнай любові да нашай духоўнай спадчыны. Няхай Слова Божае – «жывое і дзейснае» – умацоўвае нас на шляху гэтай сапраўднай любові.

2009 год у Беларускай Грэка-Каталіцкай Царкве будзе праходзіць таксама пад дэвізам «Крыж Хрыста – знак любові».

Таму грэка-католікі Беларусі, зьяднаныя вакол Крыжа Хрыстовага, шчыра моляцца, каб Новы 2009 Год Гасподні быў блаславёнай нагодай абвяшчаць жыхарам нашай Айчыны – разам з братамі лацінскага абраду ды з братамі праваслаўнымі і пратэстантамі – Слова Божае на роднай мове.

Усім сьвятарам, манахам, манахіням, семінарыстам, усім вернікам нашае Царквы ды ўсім нашым сябрам жадаем вялікага супакою сэрца, радасьці ды Божай любові, якая заахвочвае нас чыніць дабро.

Сардэчна віншуем усіх вас з Божым Нараджэньнем
і Новым 2009 Годам Гасподнім
і вітаем сьвяточным вітаньнем:
**Хрыстос нарадзіўся – Яго славім!**

*Менск, Раство Хрыстова 2008 году.*

**+ Архімандрыт СЯРГЕЙ (Гаек)**
**Апостальскі Візітатар**
**для грэка-католікаў Беларусі**

Навіны хрысьціянскага сьвету

# «Адчыніце шырока дзьверы Хрысту!»

**У Менску ўрачыста адзначылі 30-ыя ўгодкі абраньня Папы Яна Паўла II.**



Урачыстую сьв. Імшу ў Менску з нагоды 30-х угодкаў абраньня кардынала Караля Вайтылы на пасад Сьвятога Пятра ўвечары 16 кастрычніка 2008 г. у касьцёле сьвятых Сымона і Алены ўзначаліў Апостальскі Нунцый у Беларусі Высокадастойны Ўладыка Архібіскуп Марцін Відавіч. З ім саслужылі Апостальскі Візітатар БГКЦ у Беларусі Архімандрыт Сяргей (Гаек), протапрасьвітар Андрэй Абламейка з менскімі грэка-каталіцкімі сьвятарамі а. Пахомам Кавалёвым, а. Яўгенам Усошыным, а. Аляксандрам Шаўцовым з Полацку і а. Андрэем Буйнічам з Ліды, а таксама менскія каталіцкія сьвятары лацінскага абраду – а. дэкан Пётр Бялевіч (OMI) і кс. дэкан Уладзіслаў Завальнюк – гаспадар касьцёлу. (Гл. фота).

Прысутнічаў таксама Пасол Рэспублікі Польшча ў Менску спадар Генрык Ліцьвін разам з дыпламатычным персаналам.



Казаньне прамовіў Сакратар Апостальскай Нунцыятуры манс. Крысьпін Дубель. Узгадаў ён, між іншым, гістарычнае значэньне словаў, якімі новаабраны Папа Ян

Павел II распачаў свой пантыфікат: «Ня бойцеся! Адчыніце шырока дзьверы Хрысту!»

Вернікі абодвух абрадаў супольна дзякавалі Госпаду за першасьвятарскае служэньне Слугі Божага Папы Яна Паўла II і маліліся за Яго кананізацыю.

Пасьля сьв. Імшы некалькі хораў прадставілі музычную праграму для ўшанаваньня памяці Папы Яна Паўла II.

**а. Яўген Усошын, г.Менск**
**Паводле сайту Svjazep.org**

Навіны хрысьціянскага сьвету

# Экуменічныя сустрэчы ў Горадні і Берасьці

**Арганізатары экуменічных сустрэчаў як у Горадні, так і ў Берасьці лічаць вельмі важным і каштоўным досьвед рэгулярных сумесных спатканьняў, падчас якіх вернікі розных канфесіяў могуць ня толькі праслаўляць Госпада і разважаць над Словам Божым, але і проста быць разам, размаўляць, пазнаваць адзін аднаго бліжэй, планаваць сумесныя акцыі для таго, каб сьведчыць, што яны вучні Хрыста, і несьці Яго сьвятло ў гэты сьвет.**

Такія сустрэчы ёсьць праяваю шчырай узаемапавагі, брацкай любові ды салідарнасьці хрысьціянаў розных канфесіяў, яны сьведчаць пра прызнаньне роўнасьці ўсіх вызнаўцаў Хрыста перад абліччам нашага адзінага Госпада. Вельмі важна, што яны дазваляюць вернікам пазбавіцца розных устойлівых стэрэатыпаў ва ўспрыманьні сваіх братоў з іншых канфесіяў.

Вось ужо два гады як у Горадні штомесяц адбываюцца экуменічныя сустрэчы, у якіх бяруць удзел душпастыры і вернікі розных хрысьціянскіх канфесіяў гораду. Месцам для іх супольнай малітвы, разважаньняў над Словам Божым і сьпеваў праслаўленьня адзінага для ўсіх Госпада стала рыма-каталіцкая капліца па вул. Рэпіна, дзе служыць кс. Аляксандр Шэмет. Арганізатары сустрэчаў у Горадні запрашаюць на сумесную малітву ўсіх жадаючых – сьвятароў і вернікаў – у першы аўторак кожнага месяцу, а 20-й гадз.

Падобныя рэгулярныя экуменічныя сустрэчы хрысьціянаў розных канфесіяў вось ужо год як ладзяцца і ў Берасьці. Аднак тут у іх бяруць удзел ня толькі берасьцейцы, прыязджаюць і вернікі хрысьціянскіх грамадаў з суседніх гарадоў – з Кобрыня, Камянца, Маларыты, Жабінкі і іншых мясцоАрганізатары экуменічных сустрэчаў як у Горадні, так і ў Берасьці лічаць вельмі важным і каштоўным досьвед рэгулярных сумесных спатканьняў, падчас якіх вернікі розных канфесіяў могуць ня толькі праслаўляць Госпада і разважаць над Словам Божым, але і проста быць разам, размаўляць, пазнаваць адзін аднаго бліжэй, планаваць сумесныя акцыі для таго, каб сьведчыць, што яны вучні Хрыста, і несьці Яго сьвятло ў гэты сьвет.

Такія сустрэчы ёсьць праяваю шчырай узаемапавагі, брацкай любові ды салідарнасьці хрысьціянаў розных канфесіяў, яны сьведчаць пра прызнаньне роўнасьці ўсіх вызнаўцаў Хрыста перад абліччам нашага адзінага Госпада. Вельмі важна, што яны дазваляюць вернікам пазбавіцца розных устойлівых стэрэатыпаў ва ўспрыманьні сваіх братоў з іншых канфесіяў.

Вось ужо два гады як у Горадні штомесяц адбываюцца экуменічныя сустрэчы, у якіх бяруць удзел душпастыры і вернікі розных хрысьціянскіх канфесіяў гораду. Месцам для іх супольнай малітвы, разважаньняў над Словам Божым і сьпеваў праслаўленьня адзінага для ўсіх Госпада стала рыма-каталіцкая капліца па вул. Рэпіна, дзе служыць кс. Аляксандр Шэмет. Арганізатары сустрэчаў у Горадні запрашаюць на сумесную малітву ўсіх жадаючых – сьвятароў і вернікаў – у першы аўторак кожнага месяцу, а 20-й гадз.

Падобныя рэгулярныя экуменічныя сустрэчы хрысьціянаў розных канфесіяў вось ужо год як ладзяцца і ў Берасьці. Аднак тут у іх бяруць удзел ня толькі берасьцейцы, прыязджаюць і вернікі хрысьціянскіх грамадаў з суседніх гарадоў – з Кобрыня, Камянца, Маларыты, Жабінкі і іншых мясцовасьцяў. Сустрэчы адбываюцца па чарзе ў кожнай з канфесіяў (часам ня толькі ў Берасьці), таксама штомесяц, у першы аўторак, а 19-й гадз.

Даведкі пра чарговую сустрэчу можна атрымаць у душпастыра берасьцейскіх грэка-католікаў а. Ігара Кандрацьева па тэл. (+375-29) 724-74-82 або ў душпастырскім цэнтры парафіі сьв. братоў-апосталаў Пятра і Андрэя па адрасе: г.Берасьце, вул. Дворнікава, 63.васьцяў. Сустрэчы адбываюцца па чарзе ў кожнай з канфесіяў (часам ня толькі ў Берасьці), таксама штомесяц, у першы аўторак, а 19-й гадз.

*Даведкі пра чарговую сустрэчу можна атрымаць у душпастыра берасьцейскіх грэка-католікаў а. Ігара*

*Кандрацьева па тэл. (+375-29) 724-74-82 або ў душпастырскім цэнтры парафіі сьв. братоў-апосталаў Пятра і Андрэя па адрасе: г.Берасьце, вул. Дворнікава, 63.*

Навіны хрысьціянскага сьвету

# Памёр Патрыярх РПЦ

5 сьнежня 2008 г., нямнога не дажыўшы да свайго 80-годдзя, памёр Патрыярх Маскоўскі і ўсяе Русі Алексій ІІ. Ён 18 гадоў узначальваў Расейскую Праваслаўную Царкву, пачынаючы ад 1990 г.

Пахаваньне Патрыярха Алексія ІІ адбылося 9 сьнежня. Літургію ў храме Хрыста Збаўцы ўзначальваў мітрапаліт Смаленскі і Калінінградзкі Кірыл, які быў абраны месцаахоўнікам патрыяршага пасаду. Адпяваньне спачылага ўзначальваў Патрыярх Канстанцінопальскі Барталамей у саслужэньні Патрыяршага месцаахоўніка мітрапаліта Кірыла, першаярархаў і прадстаўнікоў усіх памесных Праваслаўных Цэркваў ды архірэяў Маскоўскага Патрыярхату.

Патрыярх Алексій ІІ быў пахаваны ў Богазьяўленскім катэдральным саборы ў Ялохаве (г. Масква).

Свае спачуваньні праваслаўным братам выказалі Папа Бенядыкт XVI, а таксама і каталіцкія ярархі Беларусі.

Навіны хрысьціянскага сьвету

# Пошук еднасьці – важнае заданьне Царквы

**9-13 сьнежня 2008 г. Першаярарх УГКЦ Яго Блаславенства Любамір (Гузар), Вярхоўны Архібіскуп Кіева-Галіцкі, знаходзіўся ў Рыме, дзе браў удзел у пленарным пасяджэньні Папскай Рады для спрыяньня еднасьці хрысьціянаў. Такія паседжаньні адбываюцца адзін раз на два-тры гады.**

Рада для спрыяньня еднасьці хрысьціянаў мае адміністрацыйны ўрад: старшыню і сакратарыят, а таксама сябраў Рады і кансультантаў, якія паходзяць з розных куткоў планеты. У пленарным пасяджэньні бяруць удзел усе пералічаныя групы. Сёлета ў працы Рады ўзялі ўдзел каля сарака асобаў. АД УГКЦ у гэтай сустрэчы браў удзел Уладыка Васіль (Лостэн), біскуп-эмерыт Стэмфардзкай япархіі.

Паводле словаў Яго Блаславенства Любаміра (Гузара), галоўным заданьнем такіх пасяджэньняў зьяўляецца аналіз агульнага стану і вынікаў дзейнасьці для дасягненьня еднасьці паміж хрысьціянамі. Пры гэтым аналізуюцца розныя асьпекты гэтай дзейнасьці. «Каталіцкая Царква ад часу ІІ Ватыканскага Сабору імкнецца рабіць усё мажлівае, каб між хрысьціянамі найперш настала разуменьне адзін аднаго, затым паразуменьне, зьбліжэньне і, урэшце, аб’яднаньне»,– сказаў Першаярарх УГКЦ.

Пра сам ход дыскусіяў Яго Блаславенства Любамір распавёў, што было ўзьнята пытаньне пра разуменьне сярод вернікаў важнасьці самога экуменічнага дыялогу. «Шмат у розных колах гаворыцца пра экуменізм, але людзі, у цэлым, не да канца разумеюць, для чаго гэта ўсё адбываецца. А Ісус Хрыстос выразна сказаў, што мы павінны быць зьяднаныя ў Госпадзе. Вось жа, гэта ёсьць Яго сьвятая воля. Таму экуменічны рух у жыцьці Царквы не зьяўляецца чымсьці дадатковым, а сутнасным. Царква мусіць быць зьяднанаю, мае быць адною»,— падкрэсьліў Зьверхнік УГКЦ. Для папулярызацыі гэтага разуменьня ўдзельнікі пасяджэньня вырашылі зрабіць шэраг захадаў.

**Паводле Дэпартаменту інфармацыі УГКЦ**

Навіны хрысьціянскага сьвету

# Памёр Уладыка Сафрон Дмытэрка

**5 лістапада 2008 году, на 92 годзе жыцьця адышоў у вечнасьць біскуп-эмерыт Івана-Франкоўскай япархіі Ўкраінскай Грэка-Каталіцкай Царквы Ўладыка Сафрон (Дмытэрка), ЧСВВ. Яго постаць цесна зьвязана з падпольнай дзейнасьцю і адраджэньнем Украінскай Грэка-Каталіцкай Царквы ды**

**Беларускай Грэка-Каталіцкай Царквы.**

З моманту адраджэньня першых грэка-каталіцкіх суполак у Беларусі Ўладыка Сафрон аказваў ім шматбаковую пастырскую падтрымку. У 1991 г. ён прызначыў дэканам БГКЦ а. Яна Матусевіча, а таксама рукапаклаў на дыякана а. Андрэя Абламейку ды на сьвятара а. Казіміра Ляховіча.

Усё жыцьцё Ўладыкі Сафрона (Дмытэркі) – гэта мужнае сьведчаньне веры на фоне бурлівых і трагічных падзеяў XX стагоддзя.

Сафрон Дмытэрка нарадзіўся 1 чэрвеня 1917 г. на Тэрнопальшчыне. Рукапакладзены на сьвятара 14 траўня 1942 г. у Празе (Чэхія). На працягу 1944-1954 гг. знаходзіўся пад арыштам за "антысавецкую дзейнасьць" як вязень падпольнай Царквы. Пасьля вызваленьня вёў падпольнае пастырскае служэньне ў Івана-Франкоўску, Каламыі, на Львоўшчыне і Тарнопальшчыне. 30 лістапада 1968 г. атрымаў біскупскую хіратонію і быў прызначаны біскупам-каад'ютарам Івана-Франкоўскай япархіі. Быў арыштаваны ў другі раз і (у 1973-1975 гг.) адпраўлены на прымусовыя працы на Луганшчыну (Украіна). Пасьля выхаду УГКЦ з падпольля ў 1991-1997 гг. быў біскупам-ардынарыем Івана-Франкоўскай япархіі. Сьвяты Айцец Ян Павел II 22 сьнежня 1997 г. задаволіў яго просьбу перайсьці на пенсію.

Пахаваньне Ўладыкі Сафрона, якое ўзначаліў Першаярарх УГКЦ Любамір Гузар у саслужэньні Апостальскага Нунцыя ва Ўкраіне архібіскупа Івана Юркавіча, біскупаў і сьвятароў УГКЦ, адбылося 7 лістапада ў Івана-Франкоўску. Пахаваны ён у крыпце катэдральнага сабору Ўваскрасеньня Хрыстовага ў Івана-Франкоўску.

Навіны хрысьціянскага сьвету

**Дыякан Пётр Рудкоўскі, OP**

# Быць ці забіць: крывавае аблічча геданізму

**10 сьнежня 2008 г. ААН будзе адзначаць 60-ую гадавіну Паўсюднай дэкларацыі правоў чалавека. З гэтай нагоды радыкальныя праабартыўныя групы маюць намер прадставіць Генеральнай Асамблеі ААН петыцыю ў справе гарантаваньня паўсюднага права на аборты як аднаго з асноўных правоў чалавека.**

Так-так, зьнішчэньне чалавечай істоты сапраўды прэзентуецца тут як асноўнае права чалавека. Зыходным пунктам праабартыўнай (называнай часам больш вытанчана – pro-choice) ідэалогіі ёсьць тэзіс аб тым, што чалавечы эмбрыён – прынамсі на раньніх стадыях разьвіцьця – не зьяўляецца чалавекам. Адкуль такая ўпэўненасьць? У адказ на гэтае пытаньне можна пачуць сустрэчнае пытаньне: а адкуль упэўненасьць у тым, што гэты эмбрыён зьяўляецца чалавекам? Плюс да гэтага, pro-choice ідэолагі кінуць нам, хутчэй за ўсё, яшчэ дадатковую засьцярогу: «Толькі ня трэба нам навязваць догмы пра "несьмяротную душу" і "волю Творцы"». Маўляў, калі мы абстрагуемся ад хрысьціянскіх догмаў і перакананьняў, то ўсё само па сабе стане ясным.

А вось, спадары-ідэолагі, тут далёка ня ўсё ясна, нават калі мы і возьмем у дужкі ўсю хрысьціянскую дагматыку і будзем зыходзіць выключна з "нейтральнага" разуменьня "чалавечага права". Для таго, каб супраціўляцца абортам, дастаткова няўпэўненасьці ў тым, што эмбрыён не зьяўляецца чалавечай істотай. Гэта вы абавязаны прадставіць абсалютна пэўны аргумент, што чалавечы эмбрыён на такой і такой стадыі не зьяўляецца чалавекам. Інакш кажучы, для таго, каб прызнаць аборт маральна апраўданым, патрэбен нейкі абсалютна пэўны крытэр, які дазволіў бы адрозьніць "эмбрыён-яшчэ-не-чалавек" ад "эмбрыёна-ўжо-чалавека". А такога абсалютнага крытэру ніхто з вас, шаноўныя ідэолагі, не прадставіў і прадставіць, бадай, не зможа, бо паняцьце "чалавечай істоты" не належыць ні да эмпірычных, ні да лагічных відавочнасьцяў. Вы можаце ў лепшым выпадку аперыраваць гіпотэзамі, ваш пастулат: "Дазволіць аборты!" абапіраецца ўсяго толькі на гіпотэзе, што "ікс", магчыма, не зьяўляецца чалавекам. Магчыма, не зьяўляецца, а, магчыма, і зьяўляецца...

Аднак сутнасьць праблемы дрэмле ў нечым іншым. На самой справе ёсьць нешта пэўнае для ідэолагаў pro-choice. Пэўным ёсьць культ сэксуальнай асалоды (хоць, можа, больш правільна тут было б сказаць "сэксуальнай горычы", бо сэкс, пазбаўлены этычнага вымярэньня, наўрад ці дае аўтэнтычную асалоду). Вось гэтая пэўнасьць і вызначае стратэгію ідэолагаў, якія выступаюць за аборты. Разважаньне тут такое: «Напэўна хачу мець "максімум сэксу", магчыма, чалавечы эмбрыён не зьяўляецца чалавекам, значыць, я маю права

зьнішчыць чалавечы эмбрыён». Жудаснае, антыгуманнае разважаньне, але менавіта яно ляжыць у аснове pro-choice ідэолагаў, якія старанна маскіруюцца пад “абаронцаў правоў чалавека” і з пенай на вуснах прапаведуюць свабоду і веліч чалавечай асобы.

Пад маскай шляхетнага гуманізму праабартыўнай ідэалогіі хаваецца крывавы твар геданізму – культ Фаласа і Вагіны, у ахвяру якім без асаблівых дакораў сумленьня прыносяцца тысячы і мільёны чалавечых жыцьцяў, абазваных “звыклымі эмбрыёнамі-вегетацыямі”.

Гэты культ зьяўляецца самай сур’ёзнай кампраметацыяй сучаснага гуманізму.

**З блогу дыякана Пятра Рудкоўскага, OP на Catholic.by**

Навіны хрысьціянскага сьвету

# Расея: будзе новы патрыярх РПЦ

**27-29 студзеня 2009 г. у маскоўскім храме Хрыста Збаўцы адбудзецца Памесны Сабор Расейскай Праваслаўнай Царквы, падчас якога стане вядомы новы (шаснаццаты па ліку) Патрыярх Маскоўскі і ўсяе Русі. Такое рашэньне было прынята Сінодам РПЦ 10 сьнежня 2008 г. у Маскве.**

Колькасьць удзельнікаў Сабору дагэтуль застаецца невядомай. У пасяджэньні маюць права ўдзельнічаць ня толькі ўсе біскупы (іх 193, у тым ліку па-за межамі Расеі), але і прадстаўнікі манастыроў, япархіяў і духоўных школ.

25 студзеня 2009 г., пасьля літургіі ў храме Хрыста Збаўцы, адбудзецца першае пасяджэньне Архірэйскага Сабору, які, згодна са статутам РПЦ, павінен папярэднічаць Памеснаму. Цырымонія ўступленьня на патрыяршы пасад новаабранага зьверхніка РПЦ запланавана на 1 лютага 2009 г.

Наша вера

# Пасланьне да Народу Божага па заканчэньні Сіноду пра Слова Божае

*Прапануем тэкст Пасланьня Сіноду Біскупаў да Народу Божага пра Слова Божае па заканчэньні XII чарговай генеральнай Асамблеі, ухвалены на 21-й агульнай кангрэгацыі.*

Братам і сёстрам “мір і любоў з вераю ад Бога Айца і Госпада Ісуса Хрыста. Ласка з усімі, што верна любяць Госпада нашага Ісуса Хрыста”. Такімі глыбокімі і палымянымі словамі сьвяты Павел скончыў сваё Пасланьне да хрысьціянаў Эфэсу (Эф 6, 23-24). Гэтымі ж самымі словамі мы, Айцы Сіноду, якія сабраліся ў Рыме на XII чарговую генеральную Асамблею Сіноду Біскупаў на чале з Сьвятым Айцом Бенядыктам XVI, распачынаем нашае пасланьне, скіраванае да бяскрайняга гарызонту тых, якія ў розных рэгіёнах сьвету ідуць за Хрыстом як вучні, і працягваюць любіць Яго нязьменнай любоўю.

Мы ізноў прапануем ім голас і сьвятло Слова Божага, паўтараючы старажытны заклік: “Слова гэтае даволі блізкае да цябе: яно ў вуснах тваіх і ў сэрцы тваім, каб выконваць яго” (Друг 30, 14). І Сам Бог скажа кожнаму: “Сыне чалавечы! Усе словы Мае, якія буду казаць табе, прымі сэрцам тваім і выслухай вушамі тваімі” (Ез 3, 10). Усім мы прапануем зараз духоўнае падарожжа, якое будзе складацца з чатырох этапаў і якое ад вечнасьці і ад бясконцасьці Бога прывядзе нас у нашыя дамы і на вуліцы нашых гарадоў.

**I. ГОЛАС СЛОВА: АДКРЫЦЬЦЁ**

**1.** “І гаварыў Гасподзь да вас [на гары] з сярэдзіны агню; голас словаў [Яго] вы чулі, але вобліку ня бачылі, а толькі голас» (Друг 4, 12). Гэта гаворыць Майсей, нагадваючы пра досьвед, перажыты Ізраілем у горкай адзіноце ў Сінайскай пустыні. Госпад паўстаў не як бачны вобраз, або статуя, падобная да залатога цяльца, але як «голас словаў”. Гэта той самы голас, які выйшаў на сцэну ў самым пачатку стварэньня сьвету,

разарваўшы маўчаньне пустэчы: “На пачатку... сказаў Бог: хай будзе сьвятло! І сталася сьвятло... На пачатку было Слова... і Слова было Богам... Усё праз Яго пачалося, і без Яго нішто не пачалося з таго, што пачало быць” (Быц 1, 1.3; Ян 1, 1.3).

Тварэньне нараджаецца ня ў выніку барацьбы паміж бостVамі, як вучыла старажытная міфалогія Месапатаміі, але з слова, якое перамагае пустэчу і ствarae быцьцё. Сьпявае псалмасьпеўца: “Словам Госпада створаны нябёсы, і духам вуснаў Яго – усе сілы нябесныя іх..., бо Ён сказаў, – і сталася; Ён загадаў,– і ўсё прыйшло да быцьця” (Пс 32, 6, 9). І сьвяты Павел паўторыць: “Ён ажыўляе мёртвых і кліча да існаваньня тое, што не існуе” (Рым 4, 17). Такім чынам, гэта было першым, «касьмічным» адкрыцьцём, якое робіць тварэньне падобным да вялізнай старонкі, адчыненай перад усім чалавецтвам, якое можа прачытаць на ёй Пасланьне ад Творцы: “Нябёсы абвяшчаюць славу Божую, аб творах рук Ягоных расказвае небасхіл. Дзень дню кажа слова, ноч ночы вестку перадае. Гэта ня словы і не размова, гуку якіх можна не пачуць: па ўсёй зямлі разышоўся голас іх і аж да краёў сьвету словы іх” (Пс 18 (19), 2-5).

**2.** Але боскае слова ляжыць таксама і ў аснове чалавечае гісторыі. Мужчына і жанчына, якія зьяўляюцца “вобразам і падабенствам Божым” (Быц 1, 27), і якія, такім чынам, нясуць у сабе пячатку Бога, могуць уступіць у дыялог са сваім Стваральнікам, або аддаліцца ад Яго і адпрэчыць Яго праз грэх. Вось жа, Слова Божае збаўляе і судзіць, пранікае ў гісторыю, якая складаецца з перапляценьня здарэньняў і падзеяў: «Я ўбачыў пакуты народу Майго ў Ягіпце і пачуў енк яго... Я ведаю смуткі яго, і іду выбавіць яго ад рукі Егіпцянаў, і вывесці яго з зямлі гэтае ў зямлю добрую і прасторную...» (Вых 3, 7-8). Значыць, існуе боская прысутнасьць у чалавечых справах, якія, праз дзеяньне Госпада гісторыі, уводзяцца ў найвышэйшую задуму збаўленьня, каб «усе людзі былі збаўленыя і дасягнулі спазнаньня ісьціны» (1 Цім 2, 4).

**3.** Такім чынам, боскае слова – дзейснае, стваральнае і збаўчае – ляжыць ля вытокаў быцьця і гісторыі, стварэньня і адкупленьня. Госпад ідзе насустрач чалавецтву і абвяшчае: “Я, Гасподзь, сказаў гэта – і зрабіў!” (Ез 37, 14). Існуе, аднак, яшчэ адзін этап, які праходзіць боскі голас: гэта этап пісьмовага слова, Graphe, або Graphai, Сьвятых Пісаньняў, як гаворыцца ў Новым Запавеце. Майсей зыйшоў з вяршыні Сіная, трымаючы “ў руцэ сваёй дзьве [каменныя] табліцы адкрыцьця, на якіх напісана было з абодвух бакоў: і на тым і на другім баку напісана было; табліцы былі дзея Божая, і пісьмёны, накрэсьленыя на табліцах, былі пісьмёны Бога” (Вых 32, 15-16). І сам Майсей загадае Ізраілю захоўваць і перапісваць гэтыя “табліцы адкрыцьця”: “І напішы на камянях [гэтых] усе словы закону гэтага вельмі выразна” (Друг 27, 8).

Сьвятыя Пісаньні зьяўляюцца «сьведчаньнем» боскага слова ў пісьмовай форме, кананічным, гістарычным і літаратурным помнікам, які сьведчыць пра падзею стваральнага і збаўчага Адкрыцьця. Такім чынам, Слова Божае папярэднічае і перавышае Біблію, якая таксама зьяўляецца “боганатхнёнаю” і ўтрымоўвае дзейснае боскае слова (пар. 2 Цім 3, 16). Вось чаму нашая вера ў якасьці свайго стрыжня мае ня толькі кнігу, але гісторыю збаўленьня і, як мы ўбачым, Асобу, Ісуса Хрыста, Слова Божае, якое сталася целам, Чалавекам, Які ўвайшоў у гісторыю. Менавіта таму, што гарызонт боскага слова ўключае ў сябе Пісаньне і выходзіць за яго межы, нам неабходна сталая прысутнасьць Сьвятога Духу, Які “наставіць на ўсякую праўду” (Ян 16, 13) таго, хто чытае Біблію. У гэтым ёсьць вялікае Паданьне, дзейсная прысутнасьць “Духа ісьціны” ў Царкве, які ёсьць захавальнікам Сьвятых Пісаньняў, сапраўдна вытлумачаных Настаўніцтвам Царквы. Праз Паданьне мы прыходзім да разуменьня Слова Божага, да яго тлумачэньня і да перадачы яго іншым, на сьведчаньне аб ім. Сьвяты Павел, зьвястуючы першы хрысьціянскі Сымбаль веры, прызнаецца, што ён “перадаў” тое, што ён “сам прыняў” з Паданьня (1 Кар 15, 3-5).

**II. АБЛІЧЧА СЛОВА: ІСУС ХРЫСТОС**

**4.** У грэцкім арыгінале ёсьць толькі тры ключавыя словы: Logos sarx egheneto, “Логас/Слова сталася целам”. Але ў гэтых трох словах утрымліваецца ня толькі кульмінацыя той паэтычнай і багаслоўскай пярліны, якой зьяўляецца пралог з Евангельля ад Яна (Ян 1, 14), але і сам стрыжань хрысьціянскае веры. Вечнае і боскае Слова ўваходзіць у прастору і ў час ды прымае чалавечае аблічча і самабытнасьць, і гэта настолькі праўдзіва, што можна нават наблізіцца да Яго, просячы, як тыя грэкі, што прыйшлі ў Ерусалім: “Нам хочацца бачыць Ісуса” (Ян 12 , 20-21). Словы без аблічча недасканалыя, паколькі не зьдзяйсьняюць сустрэчу ў поўні, як нагадваў Ёў, які дасягнуў канца свайго драматычнага шляху пошуку: “Я чуў пра Цябе слыхам вуха; а цяпер мае вочы бачаць Цябе” (Ёў 42, 5).

Хрыстос ёсьць “Слова, і Слова было ў Бога, і Слова было Бог”, Ён ёсьць “вобраз Бога нябачнага, народжаны раней за ўсякае стварэньне” (Кал 1, 15), але Ён таксама ёсьць Ісус з Назарэту, Які ходзіць па вуліцах ускрайкавай правінцыі Рымскае імперыі, гаворыць на мясцовай мове, у Ім бачныя рысы канкрэтнага народу, юдэйскага, і яго культуры. Вось жа, рэальны Ісус Хрыстос – кволая і сьмяротная плоць, Ён гістарычны і людзкі, але Ён таксама – слава, Боскасьць, таямніца: Ён – Той, Хто адкрыў нам Бога, Якога ніхто ніколі ня бачыў (пар.

Ян 1, 18). Сын Божы працягвае быць Ім нават у тым целе, якое пакладзена ў магілу, і ўваскрасеньне ёсьць жывым і дзейсным гэтаму доказам.

**5.** Хрысьціянская традыцыя часта праводзіла паралель са Словам Божым, Якое сталася целам, з тым самым Словам, што стала кнігай. Адным з прыкладаў гэтаму зьяўляецца Сымбаль веры, калі мы вызнаем, што Сын Божы "прыняў цела ад Духа Сьвятога і Марыі Дзевы", а таксама спавядаем веру "ў Сьвятога Духа, Які гаварыў праз прарокаў". Другі Ватыканскі сабор падтрымлівае гэтую старажытную традыцыю, паводле якой "цела Сына ёсьць перададзенае нам Пісаньне",– як сьцьвярджае сьвяты Амброзі (In Lucam VI, 33),– і выразна заяўляе: "Словы Божыя, выяўленыя на чалавечых мовах, прыпадобніліся чалавечай прамове, як некалі Слова Спрадвечнага Айца, прыняўшы слабую людзкую плоць, зрабілася падобным да людзей" (Dei verbum, 13).

Бо Біблія – таксама і яна – зьяўляецца, па сутнасьці, "целам", "пісаньнем", яна выяўляе сябе на асобых мовах, у літаратурных і гістарычных формах, у канцэпцыях, зьвязаных з старажытнай культурай; яна захоўвае памяць пра часта трагічныя падзеі, яе старонкі нярэдка спаласаваныя крывёй і насільлем, у іх гучаць водгаласы сьмеху чалавецтва і цякуць яго сьлёзы, гэтак жа, як узносіцца малітва няшчасных і радасьць закаханых. Для гэтага яе "плоцкага" вымярэньня патрабуецца гістарычны і літаратурны аналіз, які праводзіцца з дапамогаю розных метадаў і падыходаў, прапанаваных біблійнай экзэгезай. Кожны чытач Сьвятых Пісаньняў, нават самы звычайны, павінен мець адпаведнае веданьне сьвятога тэксту, памятаючы пра тое, што Слова апранута ў канкрэтныя словы, у якія Яно ўкладаецца і прыстасоўваецца, каб быць пачутым і зразумелым для чалавецтва.

Гэта зьяўляецца адной з неабходных умоваў. Калі яе выключыць, можна запасьці ў фундаменталізм, які на практыцы адмаўляе ўцелаўленьне боскага Слова ў гісторыі, не прызнае, што гэтае слова выяўляе сябе ў Бібліі, у адпаведнасьці з чалавечай мовай, якая павінна быць расшыфравана, вывучана і зразумета. Такая пазіцыя не ўлічвае, што боскае натхненьне ня сьцерла ўласьцівую чалавечым аўтарам асобу і гістарычную самабытнасьць. Біблія, аднак, таксама зьяўляецца вечным і боскім Словам, і таму патрабуе іншага разуменьня, якое даруе Сьвяты Дух, Які адкрывае трансцэндэнтнае вымярэньне боскага слова, што прысутнічае ў чалавечых словах.

**6.** Такім чынам, у гэтым ёсьць неабходнасьць "жывога Паданьня ўсёй Царквы" (Dei verbum, 12) і веры для разуменьня Сьвятых Пісаньняў у поўным аб'ёме і аднастайным спосабам. Калі засяродзіцца толькі на "літары", Біблія будзе заставацца толькі цудоўным дакументам пра мінулае, высакародным этычным і культурным сьведчаньнем. Калі ж выключаецца Ўцелаўленьне, у гэтым выпадку можна трапіць у фундаменталісцкую двухсэнсоўнасьць альбо ў беспрадметны сьпірытуалізм або псіхалагізм. Экзэгетычныя веды павінны быць, такім чынам, непарыўна зьвязаныя з духоўнай і багаслоўскай традыцыяй, каб не разьбівалася боскае і чалавечае адзінства Ісуса Хрыста і Пісаньня.

У гэтай здабытай гармоніі аблічча Хрыста будзе зьзяць ва ўсёй поўні і дапаможа нам адкрыць яшчэ адно адзінства – глыбокае і ўнутранае адзінства Сьвятых Пісаньняў, гэта значыць, тое, што іх, вядома, 73 кнігі, але што яны складаюць адзіны "Канон", адзіны дыялог паміж Богам і чалавецтвам, адзіную задуму збаўленьня. "Бог, Які шмат разоў і ўсякімі спосабамі гаварыў спрадвеку да бацькоў нашых праз прарокаў, у апошнія дні гэтыя гаварыў нам праз Сына" (Габр 1, 1-2). Хрыстос, такім чынам, рэтрасьпектыўна пралівае Сваё сьвятло на ўвесь шлях разьвіцьця гісторыі збаўленьня і адкрывае яе ўзгодненасьць, сэнс і кірунак.

Ён ёсьць пячатка, "Альфа і Амега" (Адкр 1, 8) у дыялогу паміж Богам і Яго тварэньнямі, які разьмеркаваны ў часе і засьведчаны ў Бібліі. Менавіта ў сьвятле гэтай апошняй пячаткі знаходзяць свой "поўны сэнс" словы Майсея і прарокаў, як паказаў на гэта Сам Ісус у той вясновы дзень, калі, ідучы з Ерусаліму да паселішча Эмаўс і гутарачы з Клеопам і з яго сябрам, "тлумачыў ім сказанае пра Яго ва ўсім Пісаньні" (Лк 24, 27).

Менавіта таму, што ў цэнтры Адкрыцьця ляжыць боскае слова, якое сталася абліччам, найвышэйшая мэта спазнаньня Бібліі ёсьць "у сустрэчы з нейкай падзеяй, з Асобай, якая, адкрываючы жыцьцю новы далягляд, тым самым паказвае ёй самы галоўны кірунак" (пар. Deus caritas est, 1).

Заканчэньне ў наступным нумары

**Пераклад з расейскай І.Бараноўскага.**
**Паводле сайту Каталіцкай інфармацыйнай службы Agnuz.**

Наша вера

# Вынікі практычных сустрэчаў сімпозіюму

# «Слова Божае жывое і дзейснае»

**Падчас сімпозіюму “Слова Божае жывое і дзейснае”, які праходзіў 14-16 лістапада 2008 г. у Менску, адбыўся шэраг практычных сустрэчаў. Былі праведзены чатыры круглыя сталы, падчас якіх вяліся дыскусіі на такія тэмы, як “Слова Божае ў маім жыцьці”, “Як катэхізаваць сёньня?”, “Роля сродкаў масавай камунікацыі ў перадачы Божага слова”, “Неабходнасьць і персьпектывы перакладу Бібліі на беларускую мову”.**

Першы круглы стол “Слова Божае ў маім жыцьці” ўзначаліў кс. Андрэй Зайчык, выкладчык Міждыяцэзіяльнай вышэйшай духоўнай семінарыі імя сьв. Тамаша Аквінскага ў Пінску. Мадэратар групы, падводзячы вынікі працы, адзначыў, што сучаснае грамадзтва нашай краіны сапраўды патрабуе Божага слова, аднак, з-за прызвычаенасьці да традыцыйных малітваў, вельмі часта ў вернікаў адсутнічае жывы кантакт з Богам, кантакт, які магчымы пры чытаньні Сьвятога Пісаньня. Ксёндз Андрэй падкрэсьліў, што сучаснае грамадзтва патрабуе новых формаў евангелізацыі.

Удзельнікамі круглага стала «Як катэхізаваць сёньня?» у асноўным сталі катэхеты і настаўнікі. Па словах сакратара Катэхетычнага аддзелу Менска-Магілёўскай архідыяцэзіі с. Чаславы Навіцкай (USJK), якая кіравала працай гэтай групы, асноваю катэхізацыі зьяўляецца духоўная фармацыя тых, хто нясе Божае слова, у першую чаргу – сьвецкіх катэхетаў. З гэтай нагоды была ўнесена прапанова праводзіць дадатковыя сустрэчы катэхетаў на дэканальным узроўні. У будучым плануецца зьдзейсьніць праект «катэхетычная Інтэрнэт-старонка».

“Які сродак масавай камунікацыі найбольш адпавядае пераказу Божага слова?” – з такога пытаньня распачаў працу трэцяга круглага стала “Роля сродкаў масавай камунікацыі ў перадачы Божага слова” яго мадэратар кс. Аляксандар Амяльчэня, адказны за СМІ пры Сакратарыяце ККББ. Удзельнікі сустрэчы прыйшлі да высновы, што ў гэтай справе кожны сродак – добры, аднак публіка, у залежнасьці ад свайго ўзросту і магчымасьцяў, выбірае той сродак, які ёй найбольш адпавядае. Ксёндз Уладзімір Русак, віцэ-рэктар Міждыяцэзіяльнай вышэйшай духоўнай семінарыі імя сьв. Тамаша Аквінскага ў Пінску, які прымаў удзел у працы гэтага круглага стала, узьняў такую праблематыку, як інтэрактыўнасьць у СМІ, а таксама адзначыў, што сучаснаму чалавеку, які гатовы сачыць за навінамі ў рэжыме он-лайн, важна мець кантакт з аўтарам, чым зьяўляецца так званая двухбаковая сувязь. Доктар філалагічных навук прафесар Адам Мальдзіс адзначыў, што рэйтынг СМІ залежыць ад якасьці інфармацыі і прафесійнага ўзроўню кадраў. Мадэратар групы пры гэтым падкрэсьліў важнасьць духоўнай фармацыі прадстаўнікоў СМІ, у тым ліку сьвецкіх. Удзельнікі гэтага круглага стала прыйшлі да агульнай згоды адносна той праўды, што вельмі важным зьяўляецца традыцыйны кантакт з кнігаю. “Божае слова каштоўнае і прывабнае само па сабе”,– падкрэсьліў напрыканцы кс. Аляксандар Амяльчэня.

Старшыня Секцыі па перакладзе літургічных тэкстаў і афіцыйных дакументаў Царквы (Камісія Божага Культу і Дысцыпліны Сакрамэнтаў пры ККББ) кс. доктар Ян Крэміс, які ўзначаліў працу круглага стала “Неабходнасьць і персьпектывы перакладу Бібліі на беларускую мову”, адзначыў, што тэкст Сьвятога Пісаньня павінен перакладацца з арыгінальных моваў, што патрабуе высокакваліфікаваных сьпецыялістаў. Як адзначыў Мітрапаліт Тадэвуш Кандрусевіч, важна, каб сьпецыяліст меў ня толькі тэалагічную адукацыю, але таксама быў веруючым чалавекам. Па словах архібіскупа, навука і вера ў гэтай справе павінны быць у лучнасьці. Сучаснае беларускае грамадзтва шукае Бога ў Яго слове, і гэта пацьвярджае зацікаўленасьць беларускіх вернікаў у тым, каб мець уласны набор лекцыянараў (чытаньні да сьвятых Імшаў, перакладзеныя на беларускую мову), Літургію гадзін для сьвецкіх і інш.

“Найлепшы катэхізатар – Ісус Хрыстос,– адзначыў Мітрапаліт Тадэвуш Кандрусевіч у сваім заключным слове на падвядзеньні вынікаў працы сімпозіюму.– Важна ня толькі ведаць Біблію, але годна рэалізоўваць яе ў жыцьці”.

**Паводле Catholic.by**

Сьвятло Ўсходу

# Урачыстая малітва ля мошчаў сьвятога Язафата ў Рыме

**12 лістапада Каталіцкая Царква ўрачыста адзначала памяць сьвятога сьвятамучаніка Язафата, архібіскупа Полацкага. У гэты дзень у рымскай базыліцы сьвятога Пятра, дзе захоўваюцца сьвятыя мошчы Язафата, па традыцыі сабралася духавенства і вернікі Грэка-Каталіцкіх Цэркваў з Усходняй і Цэнтральнай Еўропы, каб ушанаваць памяць Апостала Еднасьці.**

Сёлетнюю Боскую Літургію на прастоле, дзе спачываюць мошчы Сьвятога, узначальваў сакратар Кангрэгацыі Ўсходніх Каталіцкіх Цэркваў Архібіскуп Міраслаў (Марусын) у саслужэньні Ўладыкі Ўладзіміра (Війтышына), біскупа Івана-Франкоўскага. Ва ўрачыстым служэньні бралі ўдзел каля 50 сьвятароў, студэнты ўкраінскіх грэка-каталіцкіх калегіяў Пакрыва Багародзіцы і сьв. Язафата, а таксама з чэскай калегіі і калегіі «Russicum» у Рыме, шматлікія манахі, манахіні і сьвецкія вернікі.

На ўрачыстай Літургіі маліліся таксама і прадстаўнікі Беларускай Грэка-Каталіцкай Царквы: ераманах Лявонці (Тумоўскі) і семінарыст Андрэй Гайдукевіч, якія цяпер навучаюцца ў Рыме.

За апошнія гады гэта была найбольш шматлюдная і ўрачыстая багаслужба ў дзень памяці Сьвятога, які аддаў сваё жыцьцё за еднасьць хрысьціянаў.

Сьвятло Ўсходу

# «Радуйся, непахісны стоўпе еднасьці!» Сьвята парафіі ў Полацку

**9 лістапада 2008 г. у грэка-каталіцкай парафіі ў Полацку прайшло сьвята Апекуна парафіі сьвятамучаніка Язафата, Архібіскупа Полацкага. Паводле візантыйскай традыцыі сьвята пачалося яшчэ ў суботу вечарам урачыстай Вячэрняй, якую служыў парах гэтай парафіі а. Аляксандар Шаўцоў. Сьпяваў на гэтай сьвяточнай багаслужбе – вельмі прыгожа і ўзьнёсла – міжпарафіяльны хор “Прасфара” з Менску.**


У нядзелю раніцай была адслужана Ютрань, на якой шматразова гучала малітоўнае ўшанаваньне сьвятамучаніка Язафата: “Радуйся, непахісны стоўпе еднасьці!”

Боскую Літургію ў гонар сьвятога мучаніка за еднасьць Царквы ў нядзелю, 9 лістапада, узначаліў Апостальскі Візітатар Беларускай Грэка-Каталіцкай Царквы Архімандрыт Сяргей (Гаек), з якім саслужылі протапрасьвітар Ўсходняга дэканату БГКЦ імя сьв. Язафата а. Зьміцер Грышан з Віцебску і полацкі душпастыр а. Аляксандар Шаўцоў. На гэтай Літургіі сьпяваў хор полацкай парафіі сьвятамучаніка Язафата, які з нагоды сьвята парафіі падрыхтаваў некалькі новых напеваў літургічных сьпеваў.

Акрамя полацкіх парафіянаў, на сьвята Язафата прыехалі пілігрымы з Віцебску і Менску.

Паколькі сёлета спаўняецца 15 гадоў, як грэка-каталіцкая грамада г.Полацку пачала ўрачыста адзначаць сьвята свайго Апекуна, пасьля Боскай Літургіі адбыўся прагляд кароткага дакументальна-мастацкага фільму пра сьв. Язафата, які быў зьняты ў Беларусі. Вернікі мелі таксама магчымасьць паўдзельнічаць у прэзэнтацыі кнігі аднаго з заснавальнікаў полацкай парафіі сп. Міхася Баўтовіча “Эпісталяцыя сьвятога Язафата”, якая распавядае пра гісторыю перапіскі Полацкага архібіскупа з канцлерам ВКЛ Львом Сапегам і яе фальшаваньне ў пазьнейшыя часы.

Сьвята завершылася агапай – супольным брацкім абедам усіх удзельнікаў.

**Паводле сайту Svjazep.org**

Сьвятло Ўсходу

# У сьвятле Ўзвышанага Крыжа Гасподняга

**Пра жыьцёвае сьведчаньне
сьвятамучаніка Язафата (Кунцэвіча)**

Паводле супрасьлеўскай (беларускай) традыцыі 16 верасьня адзначаецца памяць сьвятамучаніка Язафата, архібіскупа Полацкага. (Гэтая традыцыя замацавана ў пастановах Замойскага Сіноду 1720 г. "Пра нерухомыя сьвяты". Нядаўна яе пачалі адраджаць і ў БГКЦ.– Рэд.) Цікава, што ў некаторых рыма-каталіцкіх парафіях Полаччыны, напрыклад, у Канстанцінаве, што ў Глыбоцкім раёне, памяць сьв. Язафата адзначаецца 26 верасьня, г. зн. у дзень, які ў XVII стагоддзі адпавядаў 16 верасьня паводле старога календара.

Сёлета дзень памяці сьвятамучаніка Язафата прыпаў на тыдзень, калі мы асабліва ўшаноўваем Пачэсны Крыж Госпада нашага Ісуса Хрыста, паколькі 14 верасьня было сьвята Ўзвышэньня Пачэснага Крыжа.

Ніжэй прапануем вашай увазе кароткае разважаньне на тэму Крыжа і цярпеньня ў жыцьці сьв. Язафата.

Сапраўды, асоба сьв. Язафата адкрывае для нас таямніцу Крыжа. Ён пачаў пазнаваць яе з дзяцінства, калі ў малым узросьце іскра Божая, якая выляцела з выявы ўкрыжаванага Хрыста, запаліла ягонае сэрца любоўю да Госпада. Гэтая іскра абудзіла душу маленькага Яна, каб яго сэрца сталася настолькі вялікім, што змагло б прыняць кожнага, хто патрабуе суцяшэньня, падтрымкі і чуласьці.

Як калісьці патрыярх Ерусалімскі пасьля таго, як знайшлі Крыж, узносіў яго, каб кожны, хто прыходзіў, атрымаў блаславеньне, так і сьв. Язафат прыняў ад Госпада сьвятло, каб "зьядналіся і былі адно, як адзін Пастыр, так і адзін статак".

Нялёгкай была справа Уніі, архібіскупу Язафату даводзілася ня раз і не два, а кожны дзень узьнімацца і браць крыж Гасподні і несьці яго. Ён быў аддадзены Зьяднанай Царкве і сэрцам, і душой, але меў таксама мудрасьць, каб адрозьніваць благое ад добрага. Цяжка нам зараз зразумець, як Сьвяты пераносіў такі перасьлед праз усё жыцьцё. Шмат разоў бачылі вочы сьв. Язафата, як справа Уніі разьбіваецца ворагамі еднасьці і, здавалася, няма паратунку, але калі ўваходзіў у храм Божы і калі малітва да Госпада пранікала глыбока ў сэрца, ён ясна бачыў, што Госпад ніколі не бывае пасаромлены. Ён заўсёды ведаў, што Госпад з ім, і, ахвяраваўшы сваё жыцьцё служэньню Госпаду, ён заставаўся верны яму.

Чытаючы жыцьцяпіс сьвятамучаніка Язафата, мы бачым, як ён аддаваўся аскезе. Звычайна ў манаскай практыцы аскеза была зброяй супраць рознага роду спакусаў. Але калі мы зразумеем, у якіх варунках жыў сьв. Язафат, то робіцца зразумелым, што яго аскеза была часткай пакутаў за Еднасьць Царквы.

Чаму сьв. Язафата называлі душахватам? Адкуль у ягоных словах была такая сіла, што прыцягвала да сябе? Гэтая моц нараджалася са штодзённых малітваў і жаданьня прывесьці да Госпада як мага болей душаў. Сьв. Язафат адзначаўся міласэрнасьцю, ціхамірнасьцю духа, але і цьвёрдасьцю ў абароне праўды Божай. Сябе ён ніколі не бараніў і не баяўся прыняць сьмерць, але заўсёды абараняў слабых і несправядліва пакрыўджаных. Дбаў ён, каб Народ Божы быў заўсёды пад апекай сьвятароў. Сам ён часта падарожнічаў і стараўся пры ўсякай магчымасьці паслужыць народу. Сьведкі згадваюць, што бачылі сьв. Язафата, калі ён на пераправе праз раку спавядаў простых людзей.

Архібіскуп Язафат добра разумеў каштоўнасьць сьвятой Уніі, бо яна прынесла Божы супакой у душы людзей. Але за словамі Хрыста Унія была і мячом, які стаўся спакусай для тых, што не разумелі волі Божай: "Няхай будуць адно, як мы з Айцом адно". І ў наш час справа Еднасьці царкоўнай становіцца выпрабавальным каменем для тых, хто больш шукае славы людзкай, чым Божай.

Сьвятамучаніку Язафаце, аддаем пад тваю малітоўную апеку нашу Беларусь. Маліся, каб мы былі вернымі сьведкамі праўды Божай і не саступалі хлусьні і мане. Маліся, каб Бог падараваў нам лагоднасьць і ціхамірнасьць духа. Просім цябе, будзь нашым заступнікам і апекуном.

Найсьвятая Багародзіца, маліся за нас.

Усе сьвятыя беларускага народу, заступайцеся за нас перад Пасадам Божым. Амін.

**а. Пахом Кавалёў** г.Менск

Парафіяльнае жыцьцё

# Панамары парафіі Праведнага Язэпа ўшанавалі блаславёнага Міхала Сапоцьку

**У нядзелю, 12 кастрычніка 2008 г., панамары (царкоўныя служкі) менскай грэка-каталіцкай парафіі Праведнага Язэпа зьдзейсьнілі пілігрымку ў Забрэзьзе (каля Валожына) – родную парафію блаславёнага Міхала Сапоцькі, беатыфікацыя якога адбылася ў Беластоку 28 верасьня 2008 г.**



Пілігрымку адправіў з Менску парах менскай парафіі Праведнага Язэпа, дэкан Цэнтральна-Заходняга протапрасьвітарату а. Андрэй Абламейка, а ўзначаліў яе духоўнік Алтарнага брацтва панамароў а. Пахом Кавалёў. Пілігрымка была прымеркавана да 120-годдзя з дня народзінаў блаславёнага, які нарадзіўся 1 лістапада 1888 г. у Юшаўшчыне, на тэрыторыі Забрэзскай рыма-каталіцкай парафіі, пра што нагадвае сёньня памятная шыльда на касьцёле ў Забрэзьзі.

Вельмі гасьцінна прыняў грэка-каталіцкіх пілігрымаў з Менску пробашч рыма-каталіцкай парафіі ў Забрэзьзі кс. д-р Генрык Акалатовіч разам з забрэзскімі парафіянамі, асабліва мясцовай моладдзю. Грэка-каталіцкія панамары прывезьлі з сабой ікону Ісуса Хрыста Чалавекалюбца (Ісуса Хрыста Міласэрнага), якую для грэка-каталіцкай парафіі ў Маладэчне асьвяціў Дзяржсакратар Сьвятой Сталіцы кардынал Тарчызіё Бэртонэ.

У забрэзскім касьцёле перад іконай Хрыста Чалавекалюбца быў адсьпяваны Акафіст імю Ісусаваму (напісаны Францішкам Скарынам), а душпастыр грэка-каталіцкай парафіі Хрыста Чалавекалюбцы ў Маладэчне а. Яўген Усошын падарыў касьцёлу ў Забрэзьзі копію іконы блаславёнага Міхала Сапоцькі.



Апостальскі Візітатар для грэка-católікаў у Беларусі Архімандрыт Сяргей (Гаек), які таксама супраавджаў пілігрымаў, нагадаў словы, якія падчас беатыфікацыі Міхала Сапоцькі ў Беластоку, сказаў Мітрапаліт Менска-Магілёўскі архібіскуп Тадэвуш Кандрусевіч: «Беатыфікацыя кс. Міхала Сапоцькі – гэта таксама радасьць і для беларускіх каталікаў. Гэты сьвяты чалавек пакінуў свае сьляды ў Беларусі, Літве і Польшчы, таму яго можна назваць Апекуном трох народаў – беларускага, літоўскага і польскага. Гэта вельмі важна з пункту гледжаньня еўрапейскай інтэграцыі, якой трэба прысьвячаць ня толькі палітычны і эканамічны прагматызм, але таксама духоўныя каштоўнасьці і супольныя хрысьціянскія карані».



Таксама Архімандрыт Сяргей сказаў: «Ашмяны, Таборышкі, Варшава, Вільня, Беласток – Беларусь, Літва, Польшча – гэта асноўныя рэгіёны служэньня Бласлаўёнага Міхала. Ён нёс там душпастырскае служэньне вернікам розных народаў, традыцыяў, моваў: палякам, беларусам, літоўцам, расейцам. Ён нёс дапамогу і апеку габрэям… Ягонае жыцьцё было абвяшчаньнем ды сьведчаньнем пра бязьмежную Божую Міласэрнасьць».

У канцы набажэнства Апостальскі Візітатар БГКЦ заклікаў усіх прысутных вернікаў да малітвы аб пакліканьнях, каб на Беларускай зямлі і сёньня маладыя людзі былі гатовымі стаць сьвятымі сьвятарамі, як гэтага прыкладам быў Бласлаўёны Міхал.

Усе ўдзельнікі сумеснай малітвы атрымалі кніжку «На шляхах Божай Міласэрнасьці» – пра бласлаўёнага Міхала Сапоцьку. Пасьля разьвітаньня з парафіяй у Забрэзьзі панамары накіраваліся ў Маладэчна, каб там ў грэка-каталіцкім храме памясьціць ікону Хрыста Чалавекалюбца.

**Паводле [Svjazep.org]**

**На фота:** 12.10.2008, в. Забрэзьзе (Валожынскі р-н). Ікона Хрыста Чалавекалюбца ў роднай парафіі бл. Міхала Сапоцькі.

Парафіяльнае жыцьцё

# Ікона Хрыста Чалавекалюбца ў Маладэчне

**12 кастрычніка ў грэка-каталіцкім Санктуарыюме Хрыста Чалавекалюбца ў Маладэчне адбылося ўрачыстае вяртаньне галоўнай іконы. У мінулым чэрвені яна была часова перададзеная ў Пастаральны цэнтр Сьвятога Язэпа ў Менск, каб перад ёй мог памаліцца Дзяржаўны Сакратар Яго Сьвятасьці Папы Бенядыкта XVI, Яго Эмінэнцыя Кардынал Тарчызіё Бэртонэ. Там ў капліцы яна захоўвалася да апошняга часу і перад ёй часта служыліся службы за ўсіх жыхароў гораду Менска.**

У Маладэчна ікону прывезьлі панамары менскай грэка-каталіцкай парафіі Праведнага Язэпа, якія перад тым з іконай зьдзейсьнілі пілігрымку ў Забрэзьзе (каля Валожына) – родную парафію блаславёнага Міхала Сапоцькі.

У Маладэчне службу з нагоды вяртаньня іконы Хрыста Чалавекалюбца ўзначаліў Апостальскі Візітатар Беларускай Грэка-Каталіцкай Царквы, Архімандрыт Сяргей (Гаек). На ўрачыстасьці прысутнічалі грэка-каталіцкія і рыма-каталіцкі сьвятары і вернікі.

«Я вельмі цешуся, што сёньня гэтая ікона вяртаецца ў санктуарыюм ў Маладэчне,– сказаў падчас свайго казаньня архімандрыт.– Яна шануецца тут ужо шмат гадоў. Гэты храм, прысьвечаны Хрысту Чалавекалюбцу, зьяўляецца вельмі каштоўным месцам не толькі для вас, парафіянаў, але і для ўсёй нашай Царквы. Кожны, хто прыходзіць сюды маліцца, атрымлівае шмат ласкаў. А “ласка” па-габрэйску азначае тое самае, што і “міласэрнасьць”. Ласка і міласэрнасьць – гэта тая ж самая рэчаіснасьць». Архімандрыт Сяргей узгадаў таксама вялікіх апосталаў Божай Міласэрнасьці Слугу Божага Папу Яна Паўла ІІ і блаславёнага сьвятара Міхала Сапоцьку, духоўніка сьвятой манахіні Фаўстыны (Кавальскай), які быў беатыфікаваны 28 верасня ў Беластоку. «Ён нарадзіўся непадалёк адсюль, у Забрэзскай парафіі цяперашняга Валожынскага раёну,– нагадаў архімандрыт.– Сваю першую Імшу служыў у мястэчку Лебедзева пад Маладэчнам. Фактычна яго жыцьцё прайшло паміж Маладэчнам, Вільняй і Беластокам, за выключэньнем пэўнага часу, калі ён жыў у Варшаве».

Усе ўдзельнікі сумеснай малітвы атрымалі кнігу галоўнага пастулятара працэсу беатыфікацыі Блаславёнага Міхала, мансіньёра Кшыштафа Ніткевіча “На шляхах Божай Міласэрнасьці”, што была выдадзеная ў Полацку стараньнем Санктуарыюма Хрыста Чалавекалюбца ў Маладэчне пры дапамозе каталіцкага Альянсу “Dives in Misericordia” (Trento). З італьянскай мовы на беларускую яе пераклаў айцец Андрэй Крот з Горадні.

Паводле словаў айца Яўгена Ўсошына, блаславёны Міхал Сапоцька, сьвятар і вызнаўца, будзе асаблівым чынам ушаноўвацца ў маладэчанскім санктуарыюме. У храме ўжо памешчаная копія ягонай іконы.

**Вольга Рудніцкая**
*Паводле Svjazep.org*

Парафіяльнае жыцьцё

# Грэка-каталіцкі сьвятар асьвяціў магілу дзеяча БНР

**У Берасьці на старых Трышынскіх могілках адбылося адкрыцьцё аднаўленага помніка Адаму Трыпусу, аднаму з ўдзельнікаў падпольнага руху ў Заходняй Беларусі, арганізаванага ўрадам Беларускай Народнай Рэспублікі на пачатку 1920-ых гадоў.**


Помнік быў асьвячаны грэка-каталіцкім сьвятаром з Берасьця а. Ігарам Кандрацьевым 16 верасьня 2008 году, на ўгодкі трагічнай сьмерці беларускага настаўніка і афіцэра Адама Трыпуса. У памяць па ім была адслужана паніхіда. Адбылася таксама кароткая малітва за душы ўсіх беларускіх дзеячоў, якія прысьвяцілі сваё жыцьцё служэньню ўласнаму народу і дабру Бацькаўшчыны. Завершылася ўрачыстасьць гімнам-малітвай «Магутны Божа». У той жа дзень увечары ў грэка-каталіцкай царкве сьв. братоў апосталаў Пятра і Андрэя была адслужана Боская Літургія ў памяць за Адама Трыпуса і яго сям'ю.

У перыяд змаганьня за незалежнасьць Беларусі Адам Трыпус – былы афіцэр царскай арміі, некалькі разоў паранены на франтах вайны і ўзнагароджаны за мужнасьць, які працаваў настаўнікам у беларускай гімназіі і быў адным з кіраўнікоў беларускага дзіцячага прытулку ў Горадні,– стаў падпольным камендантам Гарадзенскага павету і сябрам Гарадзенскага акруговага штабу антыпольскага партызанскага руху, што быў арганізаваны ўрадам БНР Вацлава Ластоўскага. У траўні 1923 году Адам Трыпус (вядомы таксама пад прозьвішчам Трыпуза і псеўданімам Каласкоў) быў сярод абвінавачаных на «Працэсе 45-ці» у Беластоку, на якім польскія ўлады судзілі беларускіх дзеячоў, якія змагаліся за права беларускага народу на ўласную дзяржаўнасьць. (Дарэчы, гераіняй таго працэсу была беларуская настаўніца з Супрасьля Вера Маслоўская-Матэйчук, якая пазьней разам з мужам псаломшчыкам Уладзімірам Карчэўскім працавала на беларускай культурніцкай ніве ва ўніяцкіх парафіях на Палесьсі ў Альпені і Кодані.) Уласна пасьля гэтага гучнага працэсу польскія ўлады выслалі яго з Горадні ў Берасьце, падалей ад цэнтраў беларускага руху, і далі негалоснае распараджэньне: ня браць на працу. Разам з ім у Берасьце выслалі яшчэ аднаго гарадзенскага дзеяча БНР – Лукаша Дзекуць-Малея, які пазьней спрычыніўся да зьяўленьня першага беларускага перакладу «Новага Запавету і Псальмаў».

Каб атрымаць працу настаўніка хоць бы і ў вёсцы, недалёка ад Берасьця, польскія ўлады паставілі А.Трыпусу ўмову – стаць лаяльным да польскай дзяржавы і прыняць каталіцтва, на што ён пагадзіўся, ахрысьціўшы дачок у касьцёле, пэўна, маючы ўніяцкія карані (яго жонка заставалася праваслаўнай). Аднак і ў гэтай вясковай школцы ў в. Ратайчыцы ён вучыў дзяцей беларускай і расейскай мовам.

На адкрыцьці помніка прысутнічалі людзі, якія ведалі інтэлігентную сям'ю Адама Трыпуса. Адзін з іх – доктар Георгі Грынкевіч (бацька старшыні берасьцейскай грэка-каталіцкай парафіі) – у маладосьці быў добра знаёмы з Адамам Трыпусам і яго сям'ёй і ўласна ён дапамог адшукаць яго магілу. На жаль, ужо няма каму яе даглядаць, а шыльда на сьціплым металічным крыжы паржавела і была амаль нечытэльная. Сп. Грынкевіч распавёў пра пасьляваеннае жыцьцё А.Трыпуса, які, паводле яго словаў, працуючы інсьпектарам у Берасьцейскім райана, ніколі ня быў абыякавы да праблемаў іншых людзей. Пра сябе ён з гонарам усім казаў, што паходзіць з радзімы К.Каліноўскага. У сям'і Трыпусаў было дзьве дачкі, але адна з іх памерла ў маладосьці, а другая – Ірына – так і засталася самотнаю, бо ўсе яе жаніхі загінулі ў ГУЛАГу. Яна жыла ў Берасьці і была выкладчыцай нямецкай, ангельскай і польскай моваў. Ад яе аўтар артыкулу даведаўся, што ў сям'і як вялікую каштоўнасьць праз увесь савецкі час захоўвалі значок з Пагоняй, які належаў бацьку, і шмат старых фотаздымкаў.

Пра годнасьць і несавецкасьць дачкі Адама Трыпуса распавядала на адкрыцьці помніка таксама спн. Марыя Лукашук.

Адам Трыпус таямніча загінуў у Берасьці ў 1965 годзе. Яго знайшлі з моцна разьбітай галавой. Як казала дачка, ніякага расьсьледаваньня не праводзілася, у сям'і ўсе былі проста запужаныя. А ў пасьведчаньні аб сьмерці Адама Трыпуса напісалі, што памёр ён ад гіпертанічнага крызу, і састарылі яго на 9 гадоў...

Незадоўга перад асьвячэньнем помніка прыадкрылася яшчэ адна невядомая старонка з жыцьця Адама

Трыпуса. Аўтар артыкулу паказаў сп. Г.Грынкевічу архіўны фотаздымак, перададзены гарадзенскім гісторыкам А.Чарнякевічам, на якім дзеці з беларускага прытулка ў Вільні з выхавальнікамі. Без ваганьняў ён апазнаў на гэтым фота маладога А.Трыпуса, а ў жанчыне, што поруч,– яго жонку. Поруч яе – вядомы беларускі сьвятар – кс. Адам Станкевіч. Сёньня ведаем, што 1920-1921 гг. Адам Трыпус быў кіраўніком беларускага прытулка для дзяцей у Вільні. А ў сакавіку 1922 году ён быў сярод заснавальнікаў Гарадзенскага аддзяленьня Беларускага таварыства дапамогі ахвярам вайны.



Адам Трыпус прысьвяціў жыцьцё служэньня бліжнім, і найперш беспрытульным дзецям, што сталі ахвярамі вайны. Вось жа сёньня абавязак беларускага грамадзтва – клапаціцца, каб памяць пра такіх шчырых беларускіх працаўнікоў ня згінула. Да ўшанаваньня памяці А.Трыпуса спрычыніліся грамадзкія актывісты з Берасьця, вернікі берасьцейскай грэка-каталіцкай парафіі. Усталяваньне помніка на магіле Адама Трыпуса было прымеркавана да 90-ых угодкаў абвяшчэньня БНР.

**Ігар Бараноўскі**

**На фота:**

1. Адкрыцьцё помніка Адаму Трыпусу на Трышынскіх могілках у Берасьці.

2. Адам Трыпус (справа) з жонкай і кс. Адамам Станкевічам сярод дзяцей з беларускага прытулку ў Вільні (пач. 1920-ых гг.).

Крыніцы духу

# Палымяны сьвятар і патрыёт

**У 30-ыя ўгодкі сьмерці беларускага**
**каталіцкага сьвятара а. Пятра Татарыновіча**



*Імя беларускага каталіцкага сьвятара лацінскага абраду Пятра Татарыновіча, на жаль, ужо даволі добра падзабытае, а часам і ўвогуле ня чутае новым пакаленьнем беларусаў, тым больш што частку свайго жыцьця (пасьля вайны) аж да сьмерці ён правёў па-за межамі Бацькаўшчыны. Аднак адметная постаць гэтага выдатнага сьвятара і беларуса вартая, каб быць належна ўшанаванай на роднай Бацькаўшчыне, каб яго імя заняло сваё годнае месца ў шэрагах патрыётаў Беларусі. Кожны з маладых беларускіх адраджэнцаў таго часу, натхнёных актам 25 сакавіка 1918 г., якія марылі пра дзяржаўнасьць свайго народу, мусіў шукаць свой шлях, сваё месца служэньня ідэі адраджэньня Бацькаўшчыны ў далёка не спрыяльных умовах. Пётра Татарыновіч уважаў, што немагчыма адраджэньне нацыі, калі ня будзе духоўнага адраджэньня людзей. Ён выбраў шлях сьвятара і стаў служыць Богу і Беларусі, ня толькі на словах, але і ўсім сваім жыцьцём.*

Што могуць узгадаць сёньня людзі, калі спытаць іх пра айца пралата Пятра Татарыновіча? У Беларусі, у лепшым выпадку, нехта ўзгадае перавыдадзены некалькі гадоў таму невялікім накладам ягоны беларускі пераклад кнігі Генрыка Сянкевіча “Quo vadis”, хоць некаторыя і зьдзівяцца гэтаму, бо не зьвярталі ўвагу на асобу перакладчыка. (Да перавыданьня гэтай кнігі спрычыніліся грэка-каталікі – выдавецтва “Сафія” пры полацкай грэка-каталіцкай парафіі, а таксама італійскія сябры з рымскай парафіі Першамучанікаў.) Была яшчэ літаратуразнаўчая праца Вітаўта Мартыненкі пра творчасьць кс. П.Татарыновіча, выдадзеная ў 2003 г. асобнай брашурай Рэдакцыяй газеты “Царква”, але яна вядомая вузкаму колу сьпецыялістаў. Магчыма, хтосьці з вернікаў старэйшага веку зможа ўзгадаць, што чуў некалі яго прозьвішча, слухаючы перадачы беларускай секцыі радыё Ватыкан. Старое пакаленьне беларускай эміграцыі можа ўзгадаць яшчэ рэдагаваны айцом Татарыновічам часопіс “Зьніч” на лацініцы і яго пераклады Новага Запавету. У некаторых палескіх вёсках бабулі-уніяткі, не прыпамінаючы адразу прозьвішча Татарыновіч, у размовах пра Унію міжваеннага часу, калі разумелі, пра каго йдзецца, адразу ўзгадвалі яго: “А, то гэта ж ксёндз Пятрок!” і з захапленьнем распавядалі пра яго палымяныя і пранікнёныя казаньні (“Як ён казаў, то ўсе плакалі!”) ды сьцьвярджалі, што слухаць іх прыходзілі нават іншаверцы.

Сёлета, 3 верасьня, мінула тры дзесяцігоддзі ад часу, калі айцец Пётра Татарыновіч скончыў свой зямны шлях і адыйшоў да Госпада. І нам вельмі хочацца падзякаваць за яго Госпаду ды бліжэй пазнаёміць сучаснае пакаленьне беларускіх вернікаў з жыцьцём і дзейнасьцю гэтага выдатнага сьвятара-беларуса, узгадаць яго добрым словам у 30 гадавіну яго сьмерці ў Вечным горадзе, у Рыме, далёка ад Бацькаўшчыны, якую ён так любіў. Магчыма, гэты матэрыял паспрыяе ўшанаваньню памяці а. Пятра Татарыновіча ў яго родных мясьцінах і ў тых парафіях, дзе ён так шчыра і аддана працаваў.

**Рэдакцыя**

Пётра Татарыновіч паходзіць з вёскі Гайнін мядзьведзіцкай парафіі на Случчыне (сёньня – Ляхавіцкі р-н Берасьцейскай вобл.). Нарадзіўся ён 2 чэрвеня 1896 г. у сям'і беларускіх сялянаў–каталікоў Станіслава і Караліны (з дому Пашукевічаў). Вялікая і моцная сваёю вераю парафія, па спогадах самога а. Пятра Татарыновіча, была пакутніцкай, бо ад 1866 г. перасьледавалася за веру царскімі ўладамі, якія прымушалі вернікаў да пераходу ў праваслаўе. Старажытны драўляны храм улады перадалі праваслаўнай Царкве, але людзі ўпарта баранілі сваю веру і моцна цярпелі за гэта. Бацька Пятра за стойкасьць у веры мусіў паўгода правесьці ў слуцкай турме і два гады на выгнаньні. Гэткая цьвёрдасьць людзей у веры спавадавала закрыцьцё храму ў 1887 г., які быў адчынены ізноў толькі ў 1905 годзе. Дзень адкрыцьця храму і першай Службы Божай стаўся для людзей сапраўдным сьвятам і менавіта тады, у гэты ўрачысты момант вяртаньня храму і дазволу на адкрытае вызнаньне сваёй веры, малы Пятрок "нарадзіўся для ідэі", як ён сам пазьней пісаў пра гэта.




Вучыўся Пётра спачатку ў Слуцку, потым у Петраградзе, дзе пасьля агульнай сярэдняй адукацыі паступіў у мітрапалітальную семінарыю і пачаў вывучаць філасофію ды тэалогію. У часы, калі беларусы, абвясьціўшы 25 сакавіка 1918 г. пра незалежнасьць БНР, спрабавалі будаваць сваю дзяржаўнасьць, П.Татарыновічу давялося вучыцца ў семінарыі ў Менску, дзе рэктарам быў д-р а. Фабіян Абрантовіч, а адным з прафесараў а. Андрэй Цікота, лідары Беларускай хрысьціянскай дэмакратыі ў тыя часы. Заканчваў навукі Пётр Татарыновіч у польскім Улацлаўку, дзе 12 чэрвеня 1921 г. ён быў высьвячаны на сьвятара Менскай дыяцэзіі.

Маладога сьвятара накіравалі на працу ў Пінск, "сталіцу Палесься", дзе ён, як малады вікары, дапамагаў адбудоўваць "зруйнаванае вайной і рэвалюцыяй жыцьцё". Адным з галоўных заданьняў ксяндза Пятра стала дапамога рэктару семінарыі кс. Ф.Абрантовічу ў працы па рэстаўрацыі спаленага храму і кляштару ў Пінску, якія потым пераўтварыліся ў катэдру ды будынак семінарыі. Разам з гэтым кс. Пётр мусіў займацца арганізацыяй працы з моладдзю, абслугоўваньнем суседніх вакантных парафіяў і шматлікімі іншымі заданьнямі. Магчыма, менавіта ў Пінску пачалося знаёмства і нават больш, сяброўства кс. Пятра з кс. Казімірам Кулаком, адным з арганізатараў пазьнейшых унійных канфэрэнцыяў у Пінску, з якім ён ліставаўся амаль да сьмерці.



У 1922 г., пэўна, ацаніўшы руплівыя здольнасьці маладога сьвятара, кс. Пятра Татарыновіча выклікаюць у Наваградак, дзе тады часова мясьцілася рэзідэнцыя біскупа Лазінскага, на даручэньне ягога ён амаль тры гады выкладае ў ніжэйшай духоўнай семінарыі, падставовых школах, выконвае пэўныя абавязкі ў дыяцэзіяльным судзе і пры мясцовым дэкане. У 1924-ым ён трапляе ў Баранавічы, дзе ізноў прызначаны для працы з моладдзю: будуе сьпецыяльную капліцу для школьнай моладзі і зьяўляецца прэфектам школаў. У Баранавічах асабліва моцна праяўляецца беларускасьць кс. Пятра (вядома, што казаньні па-беларуску ён пачаў гаварыць яшчэ як клерык і субдыякан у 1918-ым, у родных Мядзьведзічах – Рэд.), якая хутчэй за ўсё выяўлялася ў ягонай беларускамоўнасьці, і на гэта адразу зьяўляецца рэакцыя ворагаў беларушчыны. Словы школьнага інсьпектара Гульбіна (а ў іх – уся эпоха!), як і яго імя, гісторыя захавала для нас: “Як прэфэкт – узорны, але як беларус – шкодны”. Тады гэта гучала як вырак! І, хоць біскуп З.Лазінскі вызнаў невінаватасьць кс. Пятра, мусіў ён усё ж амаль на год выехаць для працы ў маленькую мазурскую вёску “на высланьне”.

У 1927 г. адбываецца падзея, дзякуючы якой аўтар гэтага артыкулу і зацікавіўся ў свой час асобай кс. Пятра Татарыновіча і пачаў дасьледаваць яго жыцьцё. У тым годзе біскуп Лазінскі вяртае кс. Пятра ў родны край, але даручае яму даволі няпростае заданьне – парафію ў мястэчку Дамачава Берасьцейскага дэканату, якая ўжо 6 месяцаў ня мела сьвятара, бо, як пісаў пазьней кс. Пётра, “парафіяне чынна выгналі майго папярэдніка”. “За ласкай Божай і сапраўды цудоўнай помаччу сьв. Антонія, патрона гэтай парафіі,– узгадваў кс. Пётр Татарыновіч,– удалося за пяць год (1927-32) цяжкае, падкапаўшае маё здароўе, працы зьмяніць маіх каханых “разбойнікаў” у дзейных і ахвярных каталікоў. [...] Аднавіўшы касьцёл (тры новыя аўтары) і плебанію, мы, сьціплая меншына вызнанёвая патрапілі сканцэнтраваць ля касьцёла культурнае жыцьцё тае мясьціны, выконваючы будову прыгожага Каталіцкага Дому Людовага, які разьвязаў тамашнія фатальныя труднасьці локалёвыя. Калі пасьля двух гадоў гэты дом згарэў, на ягоным месцы хутка вырас другі, удвая большы і прыгажэйшы, і мястэчка *magna cum pompa* [з вялікай помпай] магло прыймаць у ім візітуючага тады правінцыю дзяржаўнага Прэзідэнта, а пасьля Кс. Бп. З. Лазінскага”.



І менавіта з часоў працы ў Дамачаве біскуп Лазінскі часта скіроўвае кс. Пятра Татарыновіча як таленавітага прапаведніка на ўніяцкія пляцоўкі на Палесьсі для дапамогі

мясцовым сьвятарам. Дамачаўскія парафіяне зьбіралі грошы і такім чынам матэрыяльна паставілі на ногі ўніяцкую парафію ў Далятычах на Наваградчыне. Але кс. Пятру і гэтага было мала: у гэты час ён распачынае актыўную літаратурную дзейнасьць, якой ня спыніў да апошняга моманту. Акрамя артыкулаў у розных беларускіх каталіцкіх і ўніяцкіх часопісах, ён піша і друкуе ў Вільні некалькі невялічкіх рэлігійных брашурак: у 1928 годзе – "Сьвяты Ізыдар Хлебароб", у 1930 – "Купальле". На фотаздымках таго часу можна пабачыць маладога, высокага і зграбнага сьвятара, з чорнымі валасамі і такімі ж чорнымі бровамі, з-пад якіх на суразмоўцу глядзелі сур'ёзныя вочы. Сёньня ў Дамачаве не засталося ўжо яго парафіянаў (большасьць выехала пасьля вайны ў Польшчу, рэшта – памерла), але як памяткі пра кс. П. Татарыновіча ў мястэчку засталіся яго справы: адноўлены касьцёл, мясцовы клуб – колішні Каталіцкі народны дом, і ці не адзіны ў рэгіёне перадваенны помнік паўстанцам 1863 г. на касьцельным падворку.

Пасьля пяці гадоў актыўнай стваральнай працы ў Дамачаве, у 1932 г. ксёндз Пётра становіцца пробашчам у Століне, дзе, паводле яго словаў, сітуацыя выглядала не на шмат лепш, чым у Дамачава да яго прыезду: «Трудная была праца на гэтым прыгранічным разлеглым тэрэне, будучым у частых выпадках азылям [месцам уцёкаў] для ўсякага роду банкрутаў і афэрыстаў. Парафія складалася з разсваранага элемэнту наплывовага: войска, паліцыі, урадаўцаў, настаўніцтва і асадніцтва, якога месны праваслаўны і каталіцкі элемент паляшуцкі ды земянскі не любіў». Таксама ксяндзу Пятру Татарыновічу была даручаная праца дапамагаць мясцовым уніяцкім парафіям: у Альпені, у Гарадной, на Мярлінскіх хутарах і Колках. І гэтае заданьне кс. Татарыновіч выканаў выдатна. Атрымаўшы дапамогу ад князя Радзівіла, які жыў у сваім палацы ў столінскім прадмесьці Манькавічы, і ягонай адміністрацыі, ён арганізоўвае найперш Карытас, потым – іншыя царкоўныя арганізацыі: суполку жывога Ружанца, "Каталіцкую моладзь" і інш. Рэкалекцыі, імпрэзы, рэлігійныя працэсіі на сьвяты – усё гэта арганізоўваў і наладжваў кс. Пётр на Століншчыне.

Гэтак працягвалася да 1939-га, калі сітуацыя кардынальна зьмянілася з прыходам Саветаў. Кс. Пётр Татарыновіч, які быў ужо скіраваны на іншую парафію ў Перлееве на Беласточчыне, апынуўся пад хатнім арыштам і пад пагрозай дэпартацыі. У выніку – ён выязджае на эміграцыю, дзе і застаецца да сьмерці. Атрымаўшы ў 1939 г. у Варшаве новы пашпарт, ён некаторы час застаецца там, дзе служыць для беларусаў-каталікоў багаслужбы ў касьцёле сьв. Марціна, а потым у царкве айцоў базыльянаў, выкладае рэлігію ў беларускай школе.

«У 1944 г.,– пісаў пра яго біскуп Чэслаў Сіповіч,– перад выбухам варшаўскага паўстаньня большасьць беларусаў выехалі са сталіцы, а зь імі і кс. Татарыновіч. Адведаў ён Вільню, быў на 2-гім Кангрэсе ў Менску і прамаўляў на ім». Потым, на пачатку 1945-га ён трапляе ў Нямеччыну. Затым працаваў нейкі час місійным сьвятаром у дыяцэзіях Роттэнбург і Брэслаў (Уроцлаў), бываў у Айхштэце ў Баварыі, дзе нават шукаў магчымасьці застацца працаваць даўжэй, але напрыканцы 1945 г. кс. Пётр прыязджае ў Рым, дзе і застаецца на ўсе 33 гады, якія яму давялося яшчэ пражыць.

Ня кожны чалавек сталага веку, а кс. Пётра меў тады ўжо 49 гадоў (і да таго ж быў хворы на сухоты), трапляючы на эміграцыю вырашыць ня проста "дажываць свой век ціхенька", але адразу ж распачаць навучаньне. Ксёндз Пётра змог ня толькі распачаць навуку ў Папскім Інстытуце ўсходніх навук, але і скончыць яго з добрымі адзнакамі і навуковай ступеньню доктара багаслоўя. Тэмай, якую ён абраў для свайго дасьледаваньня, была постаць сьв. Кірылы Тураўскага.

Не пасьпеўшы адпачыць пасьля навукі, кс. Пётр распачынае дзьве найбольшыя справы свайго эміграцыйнага жыцьця: арганізоўвае і выпускае першы нумар беларускамоўнага часопіса "Зьніч" (на лацініцы) ды распачынае беларускамоўныя праграмы на радыё Ватыкан. «"Зьніч" – гэта незвычайная зьява ў гісторыі беларускага друкаванага слова!– пісаў у 1978 г. біскуп Чэслаў Сіповіч у Лондане.– І гэта нятолькі, дзеля мейсца свайго нараджэньня, але й дзеля доўгіх гадоў свайго існаваньня (1950-1975), а також й дзеля іншых абставінаў. На працягу блізу 25 гадоў адзін і той самы рэдактар і выдавец, той самы аўтар большасьці артыкулаў, ён-жа і мастак і кольпортэр! Хто-ж ня помніць ксяндза Пятра пахіленага над невялікай машынкай, нэрвова-задуманага, прыгатаўляючага артыкулы ў "Зьніч" або наступную радыяперадачу?! Калі яго пыталі, дзе-ж рэдакцыя "Зьніча"? Ён паказываў на свой пісьменны столік і казаў з усьмешкай: тут! тут! Усё тут і рэдактарства і выдавецтва, толькі трэба езьдзіць у друкарню... Італьянцы шмат робяць друкарскіх памылак...»

Апошні, 120-ы нумар "Зьніча", выйшаў на Каляды 1974-75 г., калі кс. Пятру было ўжо амаль 80 гадоў. І амаль ўсю працу ён вёў сам. Перакладаў, друкаваў, выдаваў, пісаў, агучваў, пісаў шматлікія лісты іншым беларусам-эмігрантам, прымаў у Рыме гасьцей. Шмат ёсьць успамінаў нашых землякоў-беларусаў, пачынаючы з беластоцкіх і заканчваючы амерыканскімі, якія наведвалі Рым і потым у сваіх падарожных нататках распавядалі, які гасьцінны і шчыры быў кс. Пётра, як быў гатовы кожнага сустрэць, пачаставаць, ды падтрымаць, і гэта нягледзячы на тое, што часамі ён быў вельмі цьвёрды і стаяў на сваім, верачы ў сваю праўду. Той самы біскуп Сіповіч узгадваў, што яму баяліся несьці артыкулы, бо ён іх не шкадаваў, але зьмяняў,

прычым ня толькі моўна. Усё стане зразумела, калі паспрабаваць зірнуць ягонымі вачыма на сітуацыю, калі ўсе і паўсюль забываліся на беларусаў: літаратуры па-беларуску было катастрафічна мала, а асабліва не хапала рэлігійнае літаратуры: Сьвятога Пісаньня і малітаўнікаў. Кс. Пётр Татарыновіч усімі сіламі імкнуўся выправіць гэта. Спачатку ён перавыдаў у 1949 г. малітаўнік “Голас душы” (на лацініцы), потым – у 1954 г. – была надрукавана Сьвятая Эванэлія і Апостальскія дзеі ў ягоным перакладзе. У 1956 г. ён зрабіў пераклад цудоўнага хрысьціянскага мастацкага твору “Quo Vadis” Генрыка Сянкевіча. У 1974 – заканчваючы сваю працу – а. Пётра друкуе Лісты Сьвятых Апосталаў.

Вядома, можна крытыкаваць, як шмат хто рабіў, моўныя эксьперыменты кс. Пятра. Напрыклад, ён зьяўляўся актыўным змагаром за такія словы, як, напрыклад, “Субожня”, спрабуючы падаць гэты тэрмін беларусам – і каталікам, і праваслаўным – як адзіны і агульны для ўсіх эквівалент словаў “Касьцёл” і “Царква”. Ксёндз Пётр Татарыновіч вёў адмысловую дыскусію і ў сваіх лістах, і на старонках “Зьніча”, абараняючы гэты варыянт. Але дзеля супакою ён саступіў у гэтым пытаньні і ў ягоным перакладзе Евангельля зьяўляецца ўжо слова “Эклезія” замест “Субожні”. У часы, калі тады яшчэ маленькі Пятрок вучыўся роднай мове, яна не была ані кадыфікаванай, ані добра ўпарадкаванай. Няма што зьдзіўляцца, што, правёўшы пасьля свайго “палескага перыяду” амаль усё сваё жыцьцё на чужыне, ягоная мова не набыла рысаў сучаснае афіцыйнае ці неафіцыйнае літаратурнае мовы, чым магла зьдзіўляць тады і можа зьдзіўляць сёньня чытачоў ягоных тэкстаў. Тым ня менш, менавіта дзякуючы кс. Пятру Татарыновічу беларусы ў дыяспары атрымалі магчымасьць ня толькі слухаць ягоныя беларускія рэлігійныя праграмы па радыё, але і маліцца ды чытаць Сьвятое Пісаньне ў роднай мове.

«Праца і адданасьць кс. др. П. Татарыновіча не маглі аставацца незаўважанымі найвышэйшымі Асобамі таго-ж Рыму, дзе з Божай волі ёсьць цэнтр хрысьціянства,– адзначаў біскуп Ч.Сіповіч.– 26 траўня 1961 г. была нададзена яму годнасьць Пралата Яго Сьвятасьці. […] Хутка аднак Пралат Татарыновіч быў назначаны Сябрам Найвышэйшай Рады Для Эміграцыі. […] Пралат Татарыновіч уваходзіў у Раду побач усіх іншых нацыянальнасьцяў і яго абавязкам была апека над беларусамі каталікамі лацінскага абраду расьцярушанымі ва ўсім сьвеце».

І ў гэтыя, апошнія гады працягваў кс. Пётр сваё адданае служэньне Бацькаўшчыне. Ягоныя лісты ляцелі ў розныя краіны сьвету ў пошуках беларусаў і з жаданьнем наладзіць кантакты. Божая дапамога, як і ў часы маладосьці, спрыяла намерам кс. Пятра, але ня так шмат яму ўжо засталося. Выдрукаваўшы ў 1974 г. Лісты Апосталаў і апошні калядны нумар “Зьніча”, ён адыходзіць ад актыўнай дзейнасьці і апошнія тры гады праводзіць у супакоі. Памёр кс. Пётр у нядзелю ўвечары 3 верасня 1978 г. Пахаваны быў на рымскіх могілках Cimitero Montebello, на Прыгожай Гары, бо менавіта так перакладаецца гэтая назва на мову, якую кс. Пётр любіў і захаваў праз усё сваё жыцьцё.

Сьледам за біскупам Сіповічам паўторым: «Ужываючы ягонага слова, закончым гэтыя радкі: пралат доктар Пётр Татарыновіч быў сьвятар наўзорны, паламянай веры, поўны любові Бога і сваіх братоў беларусаў».

***Пры напісаньні артыкулу былі выкарыстаны архіўныя матэрыялы і фота з Беларускай бібліятэкі імя Ф.Скарыны ў Лондане:***

*1. Аўтабіяграфія кс. Пятра Татарыновіча, 1946 г., лацініца.*

2. Машынапіс матэрыялу «Пралат Пётр Татарыновіч» біскупа Чэслава Сіповіча, 1978 г., падрыхтаваны для публікацыі ў часопісе «Божым шляхам», кірыліца.

3. Ліст біскупа Ч.Сіповіча да д-ра С.Станкевіча ад 9.Х.1978, лацініца.

**Алесь Аўдзяюк**

**На фота:**

1. Пралат а. Пётр Татарыновіч (1961 г.).

2. Малады ксёндз Пётра ў 1926-ым. Пад фота словы з вершу кс. А.Зязюлі:

«Хай хмара навісьне над соннай зямлёю,

Хай гора прыцісьне жалезнай рукою,

Свайго-ж я народу, што рвецца да волі

Ня здраджу ніколі!»

3. Кс. Пётр Татарыновіч у часы студыяў у Рыме (1945 г.).

4. Рым. Айцец П.Татарыновіч за рэдактарскай працай (каля 1963 г.).

Катэдральны пляц

# Катэдральны пляц

Слава Ісусу Хрысту!

*Добры дзень, шаноўная рэдакцыя «Царквы». Ніколі яшчэ вам не пісала, але вось зараз адважылася. Хутка вялікае і цудоўнае хрысьціянскае сьвята, якое любіць люд хрысьціянскі, і я яго вельмі люблю і чакаю, рыхтуюся, перачытваю ў газеце артыкулы, прысьвечаныя Божаму Нараджэньню. Праз газету я хацела б прывітаць і павіншаваць з надыходзячым сьвятам усіх грэка-католікаў нашай роднай Беларусі. З нагоды цудоўнага сьвята я напісала вершык. І яго вам дасылаю.*

**Нараджэньне Бога-Сына**

Зноў прыйшло хрысьціянскае сьвята,
Зноў сьвяткуе шчасьлівы народ
Адмыслова, прыгожа, заўзята
На зямлю Сына Бога прыход.

І нястрашна, што сьнег і марозы,
Што шчыруе сівая зіма.
Мы адкінем умоўнасьці прозы,–
Нарадзіўся Ісус нездарма.

Ў сьвет грахоўны прыйшоў Ён ахвярна,
Каб ад сьмерці людзей адкупіць,
Каб ня жыць нам бяздумна і марна,
Каб спажыву збавенную піць.

Каб з любоўю Хрыстовай у сэрцы
Быць у радасьці і ў журбе,
Каб ня згінуць навекі, ня ўмерці,
А жыць вечна і мне, і табе.

Мы ўдзячны магутнаму Богу
За любоў да ўсякага з нас
І надзейнаю крочым дарогай
Па жыцьці кожны дзень, усякі час.

*Асобна хачу павіншаваць і сказаць словы ўдзячнасьці нашым дарагім сьвятарам: архімандрыту Сяргею Гаеку, а. Андрэю Абламейку, а. Андрэю Сідаровічу (ён апекаваўся намі, аршанскімі грэка-каталікамі, цэлы год), а. Зьмітру Грышану (ён апякуецца намі ўжо некалькі гадоў з цярпімасьцю і цярпеньнем), а. Аляксандру Шыбеку. Айцец Сяргей Гаек час ад часу наведвае аршанскіх вернікаў, мы не забытыя ні Богам, ні сьвятарамі. Дзякуй усім сардэчнае! Мы любім нашую Царкву і нашых сьвятароў. Мы ў сваёй парафіі Пакрыва Найсьвяцейшай Багародзіцы ў Воршы як адна сям’я.*

Жадаю ўсім здароўя, надзеі, веры і супакою.

**Яўгенія Казлова** г.Ворша

Катэдральны пляц

# Біблійныя сустрэчы

**Кніга, якая мусіць весьці кожнага хрысьціяніна па жыцьці,– Біблія.**

Але нярэдка сярод традыцыйных вернікаў, асабліва тых, хто бярэ ў рукі Біблію ўпершыню, бывае так, што, калі пачынае чытаць Сьвятое Пісьмо,– праз нейкі час ён губляе ахвоту гэтым займацца. Бо сутыкаецца з незразумелымі для яго месцамі, у яго паўстаюць шматлікія пытаньні, на якія самастойна ня можа знайсьці адказу. Бывае, што пасьля гэтага некаторыя зусім перастаюць чытаць Слова Божае і ставяць Біблію на кніжную паліцу, дзе яна проста пыліцца сярод іншых кніг.

Дапамагчы такім вернікам і ўсім, хто любіць і прагне ўслухоўвацца ў Слова Божае, могуць Біблійныя сустрэчы. З восені 2007 году яны пачалі рэгулярна ладзіцца спачатку ў Берасьці, а сёлета з восені і ў Баранавічах. На гэтыя сустрэчы з Бібліяй раз на месяц зьбіраюцца разам каталікі візантыйскага і лацінскага абрадаў. Праводзяць іх грэка-каталіцкі сьвятар а. Ігар Кандрацьеў з Берасьця і рыма-каталіцкі сьвятар кс. Эдуард Мігай, які цяпер працуе ў Пінску.

Даведаўшыся пра гэтую ініцыятыву, якая скіравана на тое, каб прывучыць вернікаў рэгулярна чытаць Слова Божае, а таксама маліцца з ім, сваё блаславеньне на правядзеньне такіх біблійных спатканьняў даў кардынал Казімір Сьвёнтак. У першай Біблійнай сустрэчы ў Баранавічах, якая адбылася ў лістападзе, узяў удзел Апостальскі Візітатар для грэка-католікаў Беларусі архім. Сяргей Гаек.

У Берасьці Біблійныя сустрэчы цэлы год праходзілі ў рыма-каталіцкім касьцёле Маці Божай Каралевы, што на Кіеўцы, а цяпер штомесяц, у нядзелю, адбываюцца ў грэка-каталіцкай парафіі сьвятых братоў-апосталаў Пятра і Андрэя (мікрараён Адамкова-Рэчыца, вул. Дворнікава, 63) і папярэднічае ім брацкая агапа, а ў Баранавічах сустрэчы праходзяць у Доме Сьвятой Тройцы айцоў вярбістаў (вул. Шаўчэнкі, 6).

**Найбліжэйшыя Біблійныя сустрэчы запланаваны на 28 сьнежня і 18 студзеня ў Берасьці і на 25 студзеня – у Баранавічах. Пачатак усіх сустрэчаў заўсёды а 15-й гадз., у нядзелю. Запрашаюцца ўсе жадаючыя!**

Катэдральны пляц

# Царкоўны каляндар БГКЦ на 2009 год



*Выйшаў у сьвет новы перакідны царкоўны каляндар БГКЦ на 2009 год, які пройдзе пад дэвізам «Крыж Хрыста – знак любові».*

У новым календары зьмешчаны ўніяцкія сьвятыні Меншчыны, а таксама гісторыя Менскага дэканату.

Каляндар можна набыць ва ўсіх парафіях БГКЦ і праз Рэдакцыю газеты "Царква".

Міжваенная Унія

# Грэка-каталікі ў мястэчку Ільля на Вялейшчыне

**Неаунія ў Заходняй Беларусі, або каталіцтва візантыйска-славянскага абраду – што гэта была за зьява? Хто яны, тыя людзі, што маліліся ва ўніяцкіх храмах?**

Сяргей Яноўскі, сёньняшні парафіянін з парафіі Маці Божай Нястомнай Дапамогі ў Менску, узгадвае, што ў польскай школе, якую ён скончыў у 1939 г. у мястэчку Ільля на Віленшчыне (цяпер – у Вілейскім р-не Менскай вобл.), вучні, запаўняючы анкеты, у графе "веравызнаньне" пісалі "грэка-каталік". Узгадаў таксама і пра храм, у якім праводзіліся ўніяцкія набажэнствы, які прываблівау дапытлівых хлапчукоў з праваслаўных сем'яў, бо ён быў для іх новым і незвычайным. Тады Сяргею, сыну Пятра, Яноўскаму і ў галаву не магло прыйсьці, што дзед яго Тамаш, які загінуў 26 траўня 1863 г. у баі паўстанцкага атрада Вінцэнта Козел-Паклеўскага з расейскімі войскамі пад Уладыкамі "за вольнасьць нашу і вашу", таксама быў грэка-каталіком. Пра гэта ён даведаўся значна пазьней.

Гэтая інфармацыя пра далёка не самы вядомы ў міжваенны час уніяцкі асяродак у м. Ільля нас зацікавіла. Але хто зможа распавесьці пра гэтую малавядомую старонку гісторыі сёньня, праз семдзясят гадоў, ці застаўся там яшчэ хтосьці, хто памятае пра неаунію? Разам з сп. Сяргеем Яноўскім, мы, менскія грэка-каталікі – Андрэй Русін, Алег Чыгір і я, Вольга Іванова,– вырашылі сёлета зрабіць невялікую эксьпедыцыю ў мясьціны, дзе была спроба адрадзіць уніяцтва.

У мястэчку Ільля, дзе большая частка жыхароў цяпер прыезджыя, цяжка знайсьці мясцовых старажылаў. І ўсё ж, шукаем людзей, якія маглі б распавесьці пра ўніятаў міжваеннага часу, па мясцовых прозьвішчах: Рудніцкія, Альшэўскія, Кандрацёнкі, Шушкевічы...

Іван Каляда з вёскі Лёпаўшчына – шляхотны, жывы, вельмі малады, нягледзячы на свае 90, з якіх 15 яму давялося правесьці ў лагерах пад Ухтой. Вось што ён распавёў нам:

«Уніяцкі храм дзейнічаў пару гадоў, недзе ў 1934-1935 гг. Парафія ня склалася. З каталікоў ведаю толькі дзьве сям'і перайшлі, столькі ж з праваслаўных. Але людзей хадзіла шмат. Службы вяліся па-стараславянску, як і ў праваслаўных, хор таксама сьпяваў, было зручна і зразумела. З праваслаўнага хору [ва ўніяцтва] перайшлі тры сястры Оля, Маня і Таня Мандрык. Іван Буглак стаў псаломшчыкам, кіраваў хорам, яго сястра Марыя сьпявала. Драўляны храм, у якім праводзіліся набажэнствы, быў пабудаваны ў 1728 г. Міхалам Савіцкім, лоўчым ВКЛ як каталіцкі. Натуральна, што пасьля 1863 году ён стаў праваслаўным, у 1920 г. зноў ператвораны на касьцёл, потым сюды прыехаў уніяцкі сьвятар з сям'ёй. Жылі ў плябаніі каля храму і чатыры каталіцкія сястры [манахіні], якія займаліся падрыхтоўкай дзяцей да школы, навучалі іх польскай мове. Зьехалі яны толькі пасьля прыходу Саветаў у 1939 г. Сьвятар размаўляў на беларускай мове, быў добразычлівым, лекаваў людзей, ня браў грошы. За абрады – толькі тое, што маглі даць прыхаджане. Гэта прываблівала. Шмат вянчаліся ў грэка-каталіцкай царкве.

Я з праваслаўнай сям'і, але цікавіўся, хадзіў слухаць абедню. Праваслаўны сьвятар а. Сергій Голасаў, які выкладаў у школе Закон Божы, даў майму бацьку кніжку на польскай мове "Зброя праўды", і там было напісана пра ўніяцтва. Я прачытаў яе і захацеў паглядзець, як там. А там – усё таксама, толькі калі [на Літургіі] выходзіў сьвятар з Дарамі – ня ўзгадваў праваслаўнага ярарха. Голасава я не баяўся, хоць, можа, ён і ня ведаў, што я хадзіў ва ўніяцкі храм. Але чуў, што ён вельмі абураўся [на ўніятаў], казаў, што «гэта кладачка, па якой з праваслаўя пераходзяць у каталіцызм». Ксёндз жа ня меў нічога супраць. Уніяцкі сьвятар прабыў тут нядоўга, магчыма скончыліся адведзеныя рэсурсы... Зараз хаджу да касьцёла, бо добрыя адносіны са сьвятаром...»

На жаль, сёньня сп. Іван Каляда ўжо не жыве. Дзякуй Богу, мы пасьпелі яшчэ яго запісаць.

Аляксандр Шушкевіч – з мястэчка Ільля. Вось, што ўзгадаў ён:

«Сам я ў грэка-каталіцкую царкву не хадзіў. Калі хадзіў у польскую школу, нас навучалі сьпяваць каталіцкія і сьвецкія песьні сёстры і дзяўчына, якая ім дапамагала, ставілі пастаноўкі. Сьпеваў было шмат, і зараз можна прыгадаць завучаныя польскія пясэнкі... Да ўніяцкай царквы перайшлі тады Іван Буглак, яго сястра Марыя, зараз Алексяёнак, сёстры Барысенкі. Пасьля таго як сьвятар зьехаў, яны вярнуліся да праваслаўнай царквы. Зараз засталася толькі Марыя. А астатнія? Няма такой лапаты, каб адкапаць былых грэка-каталікоў, усе памерлі...»

Іван Рудніцкі – таксама адзін са старажылаў у Ільлі:

«Мой дзед быў арганістам у тым касьцёле, які потым стаў уніяцкім. Падчас паўстаньня 1863 г. там знайшлі зброю, якая належала паўстанцам, абяцалі саслаць дзеда, калі ня прыме праваслаўе. А ў яго сям'я вялікая. І ён прыняў. Нас потым яшчэ называлі арганістамі. Уніяцкая царква [у Ільлі] была нядоўга, у 1930-я гады.

Касьцёл у 1939-ым перабудавалі пад клуб. Падчас вайны там прымалі, куплялі лекавыя зёлкі, а немцы як адступалі – запалілі, і загарэлася яна ў адзін момант... Зараз на тым месцы клуб. У савецкія часы зруйнавалі адну з ільлянскіх цэркваў. Зачынялі і руйнавалі нават саборы паўсюль, а тут маленькія драўляныя цэркаўкі – што тут скажаш! А калі і скажаш, то Сібір недалёка».

Узгадвае былая ўніятка Марыя Алексяёнак, 94 гады:

«Я усё жыцьцё прасьпявала ў царкве. Пайшла да ўніяцкай – тут нічога ж дрэннага: службы такія ж, як у праваслаўнай, сёстры мяне навучылі добра шыць, сьвятар быў добры. Грошай за службы амаль ня браў. Але потым даведалася, што гэта так палякі хочуць нас апалячыць, зацягнуць у касьцёл... Зараз да мяне прыходзіць праваслаўны сьвятар, віншуе са сьвятамі. Чаму ж толькі адзін выходны – такое вялікае хрысьціянскае сьвята – пасха? Таму і панаехаўшая ў Ільлю менская моладзь бавіць тут час выпіўкай і гарланьнем».

Такая наша “жывая” гісторыя, створаная духоўна жывымі яе сьведкамі, якія валодаюць вялікім хрысьціянскім досьведам, захоўваюць памяць пра адну з старонак свайго жыцьця і лёсу Беларусі.

**Вольга Іванова,** г.Менск

**Гістарычная даведка**

Паводле зьвестак М.Радвана перад скасаваньнем Уніі ў 1839 г. парафія сьв. Ільлі ў мястэчку Ільля Перадвілейскага дэканату налічвала 2269 парафіянаў, да яе належылі таксама капліцы ў вёсках Гута, Казлы, Малевічы, Асьцюковічы, Шыпкі, Уладыкі, Забор’е.

Дакладнай інфармацыі пра ўніяцкую парафію ў Ільлі ў міжваенны час дасьледчыкі пакуль ня маюць. С.Абламейка падае колькасьць вернікаў у ільлянскай парафіі ў некалькі сотняў, але некаторыя дасьледчыкі яе існаваньне наогул ставяць пад сумнеў. Пра спробы ўтварэньня парафіі згадвае Ф.Жэменюк: грэка-каталікі ў м.Ільля Віленскай архідыяцэзіі пачалі маліцца ў 1929 г. пры рыма-каталіцкім касьцёле, душпастырам іх быў а. Міхаіл Сулкоўскі, былы праваслаўны, які ў 1926 г. прыняў каталіцтва ўсходняга абраду. У першыя тры гады існаваньня ўніяцкага асяродку да яго належалі толькі сьвятар з жонкай і псаломшчык. Паводле Ф.Жэменюк, пасьля 1934 г. парафія ня згадваецца ў статыстычных матэрыялах. Вынікі сёлетняй эксьпедыцыі маладых менскіх гісторыкаў у м.Ільля пацьвярджаюць факт існаваньня там уніяцкага асяродку. Праўда, спрэчным застаецца час яго існаваньня і некаторыя сьцьверджаньні апытаных людзей. Так, А.Сьвірыд прыводзіць факт вельмі варожага стаўленьня мясцовых жанчынаў з касьцёлу да ўніяцкага сьвятара М.Сулкоўскага, якія нават патрабавалі, каб той зьехаў, а 29.03.1929 г. яго нават не пусьцілі ў касьцёл. Сьвятар вымушаны быў скардзіцца Віленскаму архібіскупу Р.Ялбжыкоўскаму, але безвынікова. Адсутнасьць уласнага храму ў уніятаў і вострыя недахоп неабходных царкоўных рэчаў для набажэнстваў, а таксама канфлікты паміж каталікамі і праваслаўнымі ў Ільлі, у якіх уніяцкаму сьвятару часьцей даводзілася браць бок праваслаўных, не спрыялі ўмацаваньню і росту ўніяцкай грамады, сьцьвярджае А.Сьвірыд. Падобна, што ўласна праз такое стаўленьне сьвятар вырашыў вярнуцца ў праваслаўе.

Нягледзячы на цэлы шэраг прац па неауніі ў апошні час, статыстыка ўніяцкіх парафіяў і вернікаў у Заходняй Беларусі, якую падаюць розныя дасьледчыкі, дагэтуль вельмі супярэчлівая, лічбы часам істотна адрозьніваюцца. Існаваньне асобных уніяцкіх пляцовак наогул ставіцца пад сумнеў. Вынікае гэта з таго, што некаторыя місійныя пляцоўкі памылкова залічваюцца ў дзейныя парафіі, хоць там былі адно спробы іх утварэньня. Таксама ў беларускія парафіі часам запісваюць парафіі з тэрыторыі Заходняй Украіны. Розныя, і па-свойму зацікаўленыя крыніцы, у залежнасьці ад стаўленьня да ўніятаў, у той самы перыяд могуць па-рознаму падаваць колькасьць вернікаў у парафіі, а часам самыя вернікі большымі або меншымі групамі вярталіся ў праваслаўе і парафіі амаль зьнікалі. І ўсё ж аб’ектыўна сёньня можна сьцьвярджаць, што ў 1930-ыя гг. у Заходняй Беларусі было каля 20 уніяцкіх парафіяў і місійных пляцовак, а колькасьць вернікаў складала 9-10 тысячаў.

Гісторыя Царквы

**Г.Піхура (Гай дэ Пікарда)**

# Царкоўная музыка на Беларусі

(Пачатак у № 3 (58), 2008)

3. Заняпад (1569-1700).



Палітычная унія Вялікага Княства Літоўскага і распаўсюджаньне друку прысьпешылі арыентацыю на захад беларускай царкоўнай музыкі. Музычная друкарня была заложана пры каралеўскім двары ў Кракаве ў 1503 г. немцам Гохфэльдарам.1 Школы сьпеву працавалі ў Калегіі Рарантыстаў у Кракаве (1545), Езуіцкай Калегіі (пасьля Унівэрсітэце) ў Вільні (1569), а таксама ў Езуіцкай Калегіі ў Полацку (1581). Усюды італьянскія майстры “новага мастацтва” навучалі паліфоніі і ўзгадоўвалі сьпевакоў. Іхнія мілагучныя напевы сталіся вельмі папулярнымі, і хутка нават праваслаўныя беларусы пачалі іх пераймаць і датарноўваць да літургічных тэкстаў. Такім чынам у розных славянскіх рукапісах позьняга XVI і раньняга XVII ст. можна знайсьці напевы, якія носяць такія назовы, як “Кралевскі”, або “Езувіцкі”.2

Двары беларускіх вяльможаў былі вялікімі асяродкамі заходняга ўплыву. Так, напрыклад, на двары князя Радзівіла ў Нясьвіжы быў надрукаваны вядомы кальвінскі Катэхізм, які меў шмат польскіх гімнаў. Княжыя цэрквы ў Слуцку і Міры маглі пахваліцца собскімі расьпевамі. Абодва яны носяць адзнакі заходняга ўплыву, хоць у Слуцкім расьпеве гэты ўплыў адчуваецца больш.

Праваслаўныя манастыры і брацтвы былі цьвярдынямі кансерватызму і супраціву новай модзе, аднак іхны сьпеў быў часта папсаваны церазьмернай вакалізацыяй (заснаванай на такіх, на першы погляд, бяссэнсавых словах, як “Аненане” ці “Леге”) і скрыўленьнем тэксту (хомонія). Аднак сярод іх пачаў адчувацца ў другой палове XVI ст. рух за павышэньне ўзроўню традыцыйнага царкоўнага сьпеву. Манахі-музыкі былі запрошаныя з Украіны, Грэцыі і іншых балканскіх краінаў з мэтаю аднавіць і ўзбагаціць царкоўную музыку на Беларусі. Беларускія ірмалогіяны таго часу маюць шмат напеваў, якія носяць назоў “Грэцкі”, “Баўгарскі” і “Сербскі”, а ў манастырскіх цэрквах у Супрасьлі, Вільні і Жыровіцах сьв. Літургія часткова адпраўлялася па-грэцку.3

Галоўным асяродкам, які ўславіўся сваім сьпевам і які найбольш прычыніўся да ўзбагачэньня беларускай царкоўнай музыкі, быў бяз сумлеву Дабравешчанскі манастыр у Супрасьлі. У гэтым слаўным манастыры, адноўленым у 1509 г. Аляксандрам Хадкевічам, увесь цыкл беларускай літургічнай музыкі быў сабраны і запісаны. Гэты рукапіс, ведамы сёньня як Супрасьлеўскі Ірмалогіян (1601 г.), зьяўляецца найбольш цэнным помнікам беларускага ўнісоннага царкоўнага сьпеву пазьнейшага часу.4 Аўтар рукапісу, Багдан Анісімовіч з Пінску, ведаў і любіў царкоўную музыку, асабліва напевы Супрасьлеўскага манастыра, і выканаў свой твор з вялікай любоўю, паказаўшы пры гэтым нямала мастацкага таленту.



Арыгінальны рукапіс Супрасьлеўскага Ірмалогіяну зьяўляецца адным з найранейшых прыкладаў “Кіеўскага”, або “квадратнага”, запісу. У ірмалогіяне зьмешчаны службы Вячэрні і Ютрані на ўсе 8 літургічных тонаў (псальм “Госпадзі возвах”, сьціхіры, ірмасы, падобны і т. д.), а таксама розныя напевы для сьв. Літургіі і на сьвяты. Характэрнай і цэннай рысай Ірмалогіяну ёсьць тое,

што ў ім зьвяртаецца вялікая ўвага на паходжаньне розных напеваў (Супрасьлеўскі, Мірскі, Канстанцінопальскі, Баўгарскі і т. д.). Цэлы цыкл г. зв. “дземественных” напеваў зьяўляецца сапраўднай скарбніцай беларускага літургічнага генія.5 Паводле свайго характару, мелодыі Супрасьлеўскага Ірмалогіяну (Супр. расьпеў) часткова падыходзяць да паўднёва-заходняга і “Кіеўскага” расьпеваў, а часткова адчуваецца ў іх балканскі ўплыў. Трэба, аднак, зазначыць, што час, у якім Ірмалогіян быў складзены, у адрозьненьне ад папярэдніх перыядаў, быў часам арыгінальнай сьпецыфічна-беларускай творчасьці. Ёсьць вялікае падабенства паміж Супрасьлеўскім Ірмалогіянам і, больш ведамым, Львоўскім, які паявіўся амаль сто год пасьля, у 1700 г. Аднак Супрасьлеўскія напевы ёсьць больш суровыя і пачуцьцёва больш глыбока рэлігійныя, і таму бліжэйшыя да старога знаменнага расьпеву.


На працягу ўсяго XVII ст. напевы заходне-беларускага цыклу цешыліся вялікім посьпехам і да нас дайшло шмат ірмалогіянаў з гэтага часу. Асабліва годным увагі ёсьць Жыровіцкі Ірмалогіян (1661), які мае ў сабе шмат прыгожых мясцовых адменаў і напеваў.

Беларускія напевы распаўсюдзіліся таксама і ў Маскоўшчыне, дзе, разам з напевамі ўкраінскага цыклу, яны былі часткова абмаскаленыя і неправідлова названыя “Кіеўскім расьпевам”. Аднак гэты канчатковы ўздым беларускай музыкі быў канцом усяго перыяду. Паўстаньне і слава Магілянскай Акадэміі ў Кіеве (1633) прывялі да перавагі ўкраінскага стылю і смаку, які зацьміў Беларусь аж да пачатку цяперашняга стагоддзя.


Апошнім прадстаўніком старой школы ў беларускай царкоўнай музыцы быў Аляксандар Стрэмаухаў-Мяжэнец (дзейнічаў у 1652-68 гг.), ды ён жыў і працаваў у Маскве ў галіне маскоўскага знаменнага расьпеву.6 Народжаны у Ноўгарадзе-Северскім ад беларускіх бацькоў, Мяжэнец уступіў у Зьвенігародзкі манастыр, прыняўшы імя Савіна. Будучы праціўнікам заходняга стылю ў царкоўнай музыцы, што пранікнуў аж да ягонага роднага гораду цераз езуіцкія місіі, Мяжэнец выбраў Маскву, як яшчэ не “заражаную” новай модай. Там ён праз нейкі час стаяў на чале камісіі, назначанай царом Аляксеем Міхайлавічам дзеля рэформы царкоўнага сьпеву.

Традыцыйная царкоўная музыка траціла грунт у змаганьні з новай заходняй модай. Аднагалосны сьпеў (унісон), як жывое мастацтва, практычна перастаў зусім існаваць, калі манастыры, якія яго стварылі і баранілі, самі паддаліся чару паліфоніі.

(Далей будзе)

------------

1 H. Feicht, op. cit. p. 1694.

2 А. Преображенский. “Культовая музыка в России”, Ленінград 1924, бач. 57.

3 Д.Сцепкуро, op. cit., бач. 262; гл. таксама заўвагу 8. У XVI і XVII ст. сувязі з манастыром Хіляндарыян і Заграфу на Сьвятой Гары былі асабліва ажыўленыя.

4 Кароткае апісаньне рукапісу можна знайсьці у Г. Піхуры, op. cit., бач. 412.

5 Слова “дземественны” мела на Беларусі зусім іншае значэньне чым у Маскоўшчыне. У Маскве дземественны напеў быў напевам, ужываным на царскім двары. На Беларусі слова “дземественны” ўжывалася дзеля азначэньня мясцовых напеваў у адрозьненьне ад поўных цыклаў традыцыйных літургічных расьпеваў.

6 Гл. В. Металлов. “Русская Симмография”, Москва 1912, бач. 23-25, табліца СІХ.

Друкуецца паводле часопісу “Божым шляхам” за 1964 г. (№ 83, сакавік-красавік, с. 8-14; № 84, травень-чэрвень, с. 4-10; № 85, ліпень-жнівень, с. 5-7). Захаваны асаблівасьці лексікі аўтара, выпраўлены памылкі і правапіс асобных словаў ды скаротаў.

**На фота:**

1. Супрасьлеўскі Ірмалогіян - раньняя квадратная натацыя (1601 г.)

2. Беларускі знаменны расьпеў (палова XVI ст.): Ірмас 4-га гласу, песьня 1. Спроба транскрыпцыі праз праф. І.Гарднэра.

3. Супрасьлеўскі расьпеў (з Супрасьлеўскага Ірмалогіяна 1601 г.).

4. Віленскі напеў (з Жыровіцкага Ірмалогіяна 1661 г.): Херувімская песьня.

Голас сэрца

# Яго духоўнай Бацькаўшчынай была Беларусь



**15 лістапада 2008 г. у менскім касьцёле сьвятых Сымона і Алены адбылося пахаваньне праху Гая Пікарда, вядомага дасьледчыка гісторыі беларускай духоўнай музыкі і беларусіста (памёр 21 красавіка 2007 г. у Лондане), які большую частку свайго 76-гадовага зямнога жыцьця прысьвяціў знаёмству заходняга сьвету з беларускай гісторыяй і здабыткамі нашай культуры.**

У сваім запавеце ён выказаў пажаданьне пахаваць яго ў адной з менскіх сьвятыняў.

З блаславеньня Мітрапаліта Менска-Магілёўскага архібіскупа Тадэвуша Кандрусевіча пробашч рыма-каталіцкай парафіі сьв. Сымона Алены ў Менску кс. Уладзіслаў Завальнюк накіраваў адпаведныя лісты ў Міністэрства замежных спраў і ў Міністэрства культуры Рэспублікі Беларусь, ад якіх атрымаў згоду на пахаваньне астанкаў (капсулы) сп. Гая Пікарды ў Менску.



Сьвятую Імшу ў памяць пра Гая Пікарда ў суботу ўвечары, 15

лістапада, узначаліў Мітрапаліт Менска-Магілёўскі архібіскуп Тадэвуш Кандрусевіч у саслужэньні Апостальскага Візітатара для грэка-католікаў Беларусі архімандрыта Сяргея Гаека, пробашча Чырвонага касьцёлу кс. дэкана Ўладзіслава Завальнюка ды сьвятароў лацінскага і візантыйскага абрадаў.

Пасьля сьв. Імшы памінальнае слова сказаў беларускі грэка-каталіцкі сьвятар айцец Сяргей Стасевіч з Лондану. Ён нагадаў, што Гай Пікарда быў сапраўдным грамадзянінам Еўропы: нарадзіўся ў Францыі, жыў у Англіі, але яго духоўнай Бацькаўшчынай была Беларусь.

З пяцідзясятых гадоў XX ст., зацікаўлены і заахвочаны кіраўніком Беларускай каталіцкай місіі ў Лондане біскупам Чэславам Сіповічам, ён заняўся і захапіўся беларускай музыкай і культурай. Для публікацыяў у друку прыняў нават беларускае прозьвішча Піхура. “Хай сьняцца Табе сны аб Беларусі, дарагі Гай”,– сказаў у канцы памінальнага слова а. Сяргей Стасевіч.

Пасьля малітвы ў лацінскім і візантыйскім абрадзе капсула з прахам Гая Пікарды была закладзена у зьнешнюю сьцяну Чырвонага касьцёлу.



«Мы выканалі запавет нашага брата сьвятой памяці Гая і пахавалі ягоны прах у сталіцы Беларусі горадзе Менску. Але пахаваныя тут ягоныя астанкі – гэта запавет для ўсіх нас, каб любіць і шанаваць нашую беларускую духоўную спадчыну так, як яе любіў і шанаваў ён. Хай каштоўная спадчына беларускай духоўнай песьні жыве ў нашых сэрцах і гучыць у нашых вуснах»,– сказаў Архімандрыт Сяргей (Гаек) напрыканцы пахавальнай службы. А на заканчэньне пахавальнай цырымоніі ўсе прысутныя засьпявалі гімн “Магутны Божа” – такі блізкі сэрцу сьвятой памяці сп. Гая Пікарда.

Як беларусіст, дасьледчык беларускай культуры, Гай Пікарда (20.07.1931 – 21.04.2007) быў узнагароджаны медалём Францыска Скарыны. Ён быў нязьменным членам журы Міжнароднага музычнага фестывалю “Магутны Божа” ў Магілёве. Яго пяру належаць многія артыкулы па гісторыі беларускай літаратуры, пра Францішка Скарыну і яго сымболіку, а таксама рэцэнзіі, зьмешчаныя ў лонданскім квартальніку “The Byelorussian Studies”. Таксама ён выдаваў на ангельскай мове часопіс пра беларускую культуру “The Byelorussian Cronicle”. Пасьля сьмерці гэтага выдатнага ангельскага дасьледчыка засталася неапублікаванай галоўная яго праца – зборнік “Залатая Беларусь”.

**На фота:**
Менск, 15.11.2008 г. Закладка капсулы з прахам і асьвячэньне мемарыяльнай дошкі ў памяць пра Гая Пікарда ў касьцёле сьвятых Сымона і Алены.

Голас сэрца

# «З Богам да Беларусі»

**Адам Станкевіч. «З Богам да Беларусі». Збор твораў.– Вільня, Інстытут беларусістыкі, 2008.– 1097 с.**



Мо праца крапатлівая мая
Не прападзе, на сонцы заясьнее,
Калі мінуць асеньнія вятры
І незалежнасьць вызваняць званіцы.

*Максім Танк,*

“Манах-летапісец”, 30.12.1938 г.

Каштоўны і выдатна выдадзены больш за 1000-старонкавы збор твораў вядомага беларускага ксяндза-адраджэнца рупліва падрыхтавалі ўкладальнікі Алесь Пашкевіч і Андрэй Вашкевіч, за што ім шчырая падзяка. Дзякуючы ім, упершыню ўся друкаваная і пакінутая ў рукапісах спадчына аднаго з стваральнікаў і кіраўнікоў Беларускай хрысьціянскай дэмакратыі кс.Адама Станкевіча пасьля дзесяцігоддзяў забаронаў, вынішчэньня і захоўваньня ў сьпецсховах ізноў вяртаецца да беларускага чытача.

Тэксты, якія ўвайшлі ў збор твораў кс. Адама Станкевіча, разьмеркаваныя па 5 разьдзелах: “Беларусь самастойная”, “Беларусь хрысьціянская”, “Касьцельная навука”, “Грамадзка-палітычная думка”, “Дзёньнік”.

**Набыць кнігу можна праз незалежных распаўсюднікаў.**

«Разам» - старонкі грэка-каталіцкіх семінарыстаў, выпуск № 4 (32) 2008

# Слова Божае – дар Бога

**У Год сьв. Апостала Паўла мы хочам больш увагі прысьвяціць Сьвятому Пісаньню. Пачнем з элементарных зьвестак, якія могуць быць карыснымі для таго, хто толькі пачынае чытаць Сьвятое Пісаньне.**



**Колькі кніг утрымлівае ў сабе Сьвятое Пісаньне?**

Сьвятое Пісаньне складаецца з 46 кніг Старога Запавету і 27 кніг Новага Запавету. Усе кнігі Царква прызнае боганатхнёнымі, усе разам яны складаюць канон Сьвятога Пісаньня.

**Што азначае боганатхнёнасьць кніг Сьвятога Пісаньня?**

Хоць мы нызываем Сьвятое Пісаньне ці Біблію адной кнігай, на самай справе гэта цэлая бібліятэка (грэцкае слова «Біблія» – азначае «Кнігі»). Яна складаецца з 73 кніг. Яны былі напісаныя больш за 40 аўтарамі на працягу шматлікіх сотняў гадоў. Сярод іх былі сьвятары, пастухі, цары, навукоўцы, лекары і інш. Хоць Сьвятое Пісаньне было напісанае markознымі людзьмі і многія з іх не сустракаліся паміж сабой, яно валодае дзіўнай гармоніяй і ўнутраным адзінствам. Усе кнігі маюць адну мэту і адзіную тэму – выратаваньне (збаўленьне) чалавека праз веру ў Ісуса Хрыста. Калі мы ня можам зразумець нейкае месца, у іншым мы знаходзім поўнае тлумачэньне.

Як так атрымалася, што людзі розных саслояў, якія жылі ў розныя часы, напісалі такую, дзіўна гарманічную кнігу? «Усё пісаньне боганатхнёна...» (2 Цім 3, 16). Гэта азначае, што ўсе аўтары кніг Бібліі былі натхнёныя Сьвятым Духам, Духам Бога. Бог Сам адчыняў Сваю ісьціну таму, або іншаму чалавеку. Ён заахвочваў запісаць Яго адкрыцьці і Ён Сам кіраваў ім Святым Духам. Унікальнасьць Сьвятога Пісаньня ў тым, што яно было напісана пад кіраваньнем Духа Божага.

«Для таго, каб скласьці гэтыя Сьвятыя кнігі, Бог абраў людзей, да якіх зьвярнуўся, выкарыстоўваючы цалкам іх здольнасьці і сілы, з тым, каб, пры Яго садзеяньні, у іх і праз іх, яны пісьмова выказалі, як сапраўдныя аўтары, усё, і толькі тое, што Ён жадаў» (ККЦ, 106). Таму ў канчатковым выніку аўтарам пісаньня зьяўляецца Сам Бог.

**Чаму Сьвятое Пісаньне вучыць Праўдзе?**

Сьвятое Пісаньне вучыць нас Праўдзе, таму што сапраўдным аўтарам ёсьць Бог. Яно ня ёсьць «слова напісанае і бязмоўнае, але Слова ўцелаўлёнае і жывое» (сьв. Бярнард з Клерво). Сьвятое Пісаньне зьяўляецца жывым словам Бога, якое зьвернута да ўсіх нас. Мы можам пачуць голас Бога тут і цяпер. Бог хоча выхоўваць нас як сваіх любых дзяцей і зрабіць нас дасканалымі.

Сьвятое Пісаньне робіць нас мудрымі. Мы пазнаем Бога, сябе і гэты сьвет. Пазнаньне праўды вядзе да збаўленьня праз веру ў Ісуса Хрыста. Збаўленьне азначае прабачэньне грахоў, прымірэньне з Богам, вечнае жыцьцё.

**Якое значэньне мае Стары Запавет для хрысьціянаў?**

Хрысьціяне заўсёды ўшаноўвалі Стары Запавет як праўдзівае Слова Бога. Усе кнігі маюць боскую натхнёнасьць і нязьменнае значэньне. Большасьць старазапаветных чытаньняў зьяўляюцца прароцтвамі, якія падрыхтоўваюць чытаньні новазапаветныя, і тым самым паказваюць, што Стары Запавет атрымоўвае для хрысьціянаў паўнату свайго сэнсу менавіта ў жыцьці, сьмерці і ўваскрасеньні Ісуса Хрыста. «Божы план збаўленьня ў Старым Запавеце быў найперш скіраваны на падрыхтоўку прыйсьця Збаўцы сьвету». Кнігі Старога Запавету, «хоць у іх ёсьць рэчы недасканалыя і часовыя», сьведчаць пра цудоўную педагагічную апеку збаўчай любові Божай: у іх «ёсьць узьнёслая навука пра Бога, збаўчая мудрасьць адносна чалавечага жыцьця і дзівосная малітоўная скарбніца, у іх, нарэшце, утоеная таямніца нашага збаўленьня» (ККЦ, 122).

**Якое значэньне мае Новы Запавет для хрысьціянаў?**

«Слова Божае, якое ёсьць сіла Божая для збаўленьня кожнага верніка, асаблівым чынам выяўляецца ў Пісаньнях Новага Запавету і зьяўляе сваю моц». Гэтыя Пісаньні дораць нам канчатковую ісьціну пра Боскае Адкрыцьцё. Іх галоўны прадмет – Ісус Хрыстос, уцелаўлёны Сын Божы, Яго дзеі, Яго навучаньне, Яго Мука і Яго праслаўленьне, а таксама нараджэньне Яго Царквы пад дзеяньнем Сьвятога Духа (ККЦ, 124). Евангельле – гэта вяршыня ўсяго Сьвятога Пісаньня, яно займае цэнтральнае месца, таму што Ісус Хрыстос стаіць у яго цэнтры.

**Якая еднасьць існуе паміж Старым і Новым Запаветам?**

Сьвятое Пісаньне ёсьць адзінае, паколькі адзінае ёсьць Слова Божае, адзінства збаўчай задумы Божай і яго Адкрыцьця. Стары Запавет падрыхтоўвае Новы, у той час як Новы зьдзяйсьняе Стары; яны праліваюць сьвятло адзін на аднаго; абодва – праўдзівае Слова Божае (ККЦ, 140). Новы Запавет адкрывае нам значэньне Старога. Стары Запавет можна зразумець толькі ў сьвятле Новага. Стары Запавет раскрываецца ў Новым, таму Новы Запавет зьяўляецца не дапаўненьнем Старога, а яго зьдзяйсьненьнем.

**Якую ролю адыгрывае Сьвятое Пісаньне ў жыцьці Царквы?**

Як еўхарыстычнае Цела Хрыста, так і Слова Божае сілкуе і накіроўвае ўсё хрысьціянскае жыцьцё. Сьвятое Пісаньне павінна быць душой багаслоўя, пропаведзі, катэхезы і ўсякага хрысьціянскага навучаньня. Царква «асабліва і настойліва заахвочвае ўсіх, хто верыць у Хрыста, здбыць «выдатнае спазнаньне Ісуса Хрыста (Флп 3, 8) праз частае чытаньне Пісаньняў, бо «ня ведаць Пісаньня – ня ведаць Хрыста» (сьв. Геранім)» (ККЦ, 133).

*Паводле кнігі Raffaello Martinelli «Eucaristia – Pane di Vita Eterna».*
**Андрэй Гайдукевіч**

**На фота:**
Менск, 22.11.2008. Айцец Аляксандар Надсан чытае сьв. Евангельле падчас Боскай Літургіі.

«Разам» - старонкі грэка-каталіцкіх семінарыстаў, выпуск № 4 (32) 2008

# Госпад прыходзіць, аб’яўляецца, прамаўляе, чакае адказу

**Госпад адорвае мяне шматлікімі дарамі. Між іншым даў пабываць на розных евангелізацыйных курсах, на якіх Хрыстос паіў мяне вадою жывой – Сваім Словам і даваў мне Сябе ў прычашчэньні Сьвятых Тайнаў. Хачу падзяліцца з Вамі развжаньнямі над тым, чым ёсьць Слова Гасподняе ў маім, і ня толькі ў маім, жыцьці. Ці займаць яму месца на паліцы, ці жыць у сэрцы, выпраменьваючы Сьвятло, якое асьвятляе нашае жыцьцё. Паказвае шлях, даруе супакой і радасьць, стаецца арыенцірам падчас выпрабаваньняў.**

Існуе столькі пытаньняў, якія могуць нараджаць неспакой, заклапочанасьць, страх адносна будучыні: як жыць у сьвеце, дзе ёсьць столькі несправядлівасьці, столькі цярпеньняў? Як рэагаваць на эгаізм і насільле, каторыя часам, здаецца, перамагаюць? Альбо чаму бывае не атрымоўваем тое, чаго так моцна прагнем? Як напоўніць жыцьцё сэнсам? Чым ёсьць сапраўдная любоў? Пошукі Праўды прыводзяць нас да Бібліі, у якой знаходзяцца адказы на ўсе нашыя пытаньні, цярпеньні, пошукі. Біблія – гэта ліст міласэрнага і любячага Таты да сваіх дзяцей. Да нас – мяне і цябе.

Каб любіць, трэба пазнаць. Я шмат часу задаваўся пытаньнем: як можна любіць Бога? Гэта ёсьць першая і найважнейшая запаведзь – так кажа Хрыстос. Я задаваў гэтае пытаньне сьвятарам. Усе яны адказвалі прыкладна адно: каб любіць, трэба спазнаць. Як усе сьцежкі вядуць у Рым, так усе пытаньні вядуць да Бібліі.

Я чытаў. Маліўся да Сьвятога Духа, просячы Ягонай дапамогі, і чытаў. Чытаў, не зважаючы на неразуменьне (памылкай было пачынаць чытаць з самага пачатку, са Старога Запавету – трэба пачынаць з Новага запавету, з Евангельляў), на недахоп часу, на асабістую ляноту, і заўважыў, што Госпад ідзе разам са мною, дапамагае. Дае мне адпаведных людзей, якія падказваюць, што і як рабіць. Ён не адкрывае ўсё адразу, але кліча мяне і Сам ідзе разам са мной. Ён прамаўляе да мяне. Часам супакойвае, кажа пяшчотныя словы. А часам хаджу і на сэрцы нашу неспакой. Адкрываю Біблію і прашу Яго: пакажы, што адбываецца. І Ён паказвае мне маю няправасьць, мой грэх. У некалькіх біблійных вершах або ў адным слове, якое закранула. Бывае так: нейкае

слова з усяго тэксту западзе ў сэрца і тады пачынаеш разважаць. Медытуеш, узгадваеш іншыя ўрыўкі з Пісаньня з гэтым словам, глядзіш паралельныя месцы, якія звычайна падаюцца ў Бібліі. І Ён рэальна прамаўляе!

Ёсьць розныя пераклады на беларускую, расейскую мовы. Я размаўляў з а.Аляксандрам Надсанам, доктарам багаслоўя Ірынай Дубянецкай – гэтыя людзі выдатна ведаюць арыгінальныя мовы, у якіх напісана Біблія. Пытаўся ў іх пра больш адпаведны пераклад. Яны параілі пераклад на беларускую мову, зроблены Л.Дзекуць-Малеем і А.Луцкевічам у 1931 годзе, які быў неаднаразова перавыдадзены. Ён найбольш блізкі да арыгіналу і больш дакладны, чым нават расейскі сінадальны пераклад. Пытаўся і наконт каментароў да Бібліі. Тут, на жаль, каб чытаць добрыя каментары, трэба ведаць замежныя мовы – перадусім ангельскую.

Сустрэцца з жывым Ісусам, размаўляць з Ім, слухаць Яго – гэта патрабуе высілкаў. Трэба знайсьці адпаведны час. Лепш за ўсё раніцай – лягчэй адкласьці жыцьцёвыя клопаты і слухаць. Бывае, што чытаеш-чытаеш і нічога. Тут трэба быць настойлівым. «Засуха» мінае. Госпад мае хлеб для кожнага – ніхто не застанецца галодны, галоўнае – прагнуць. Госпад мае вельмі шмат падарункаў. А што часам маўчыць, то значыць так зараз трэба. Ён нічога ня робіць проста так. Трэба быць ўдзячным за ўсё!

Апроч гэтага вельмі важным зьяўляецца рашучасьць спаўняць Слова. Ёсьць істотная розьніца паміж паняцьцямі «ведаць» Сьвятое Пісаньне і «жыць» ім. Трэба мець жаданьне спазнаваць волю Айца і прагнуць выконваць Яго волю. Гэты радыкальны выбар падтрымлівае і ўзмацняе крыніца сапраўднай любові – Еўхарыстыя. Яна дапамагае пазбавіцца страху і ўлівае радасную рашучасьць жыць згодна з Евангельлем.

Памятаю, як доўга размаўляў з адной дзяўчынай. Яна страціла сэнс, загубілася, ня мела пад нагамі апоры і шукала. Я маліўся за яе, размаўляў з ёй, стараючыся дапамагчы разабрацца. Найлепшымі лекамі тут ёсьць словы з Сьвятога Пісаньня. Бо такое Слова – жывое і дзейснае. Яна зьдзіўлялася, што адказы я бяру з Бібліі. А там – пра кожнага. У гэтым і сэнс, што чытаеш пра сябе. Для мяне (і ня толькі для мяне) без чытаньня Слова і штодзённай малітвы – няма апоры, няма адказаў. Увогуле няма рэальных адносінаў з Богам.

Дзяліцца Словам… Гэта прыносіць вялікую радасьць і паглыбляе веру. Чытаць разам, маліцца і разважаць. Дзяліцца, задаваць пытаньні тым, хто мае больш глыбокі досьвед, перадусім сьвятарам – вельмі-вельмі важна і карысна. А да таго ж Хрыстос Сам кажа, што «дзе двое ці трое зьбяруцца ў імя Маё, там Я сярод іх»!

Сьвет мяняецца, ставіць новыя пытаньні, новыя выклікі і праблемы. Сёньня нішчыцца жыцьцё, захлынае матэрыялістычны падыход. Як хрысьціяне, як вучні Хрыста – што мы адкажам на гэтыя выклікі? Што мы адкажам на аргументы тых, хто ня верыць у Хрыста? Дзе возьмем любоў, каб адказаць ёю на нянавісьць? Ці знойдзем сэнс, дзеля якога сапраўды варта жыць? Хрыстос – Дарога, і Праўда, і Жыцьцё – кліча нас да Сябе. Кліча кожнага! І ўжо зараз!

**семінарыст Сяргей Раюнец**

«Разам» - старонкі грэка-каталіцкіх семінарыстаў, выпуск № 4 (32) 2008

# Данесьці Слова Божае да людзей – на роднай мове

*Размова з мітрафорным протаярэем айцом Аляксандрам Надсанам, Апостальскім Візітатарам для беларусаў-католікаў замежжа*



**– Айцец Аляксандар, раскажыце, калі ласка, як нарадзілася і як разьвівалася Вашае пакліканьне да сьвятарства.**

– Вельмі цяжкае пытаньне. Я не магу так сказаць, калі і ў якой хвіліне гэта сталася. Безумоўна, паволі Бог, разумееце, заўсёды вядзе людзей такой дарогай, каб не рабіць гвалт над душою.

Мае маладыя гады праходзілі падчас вайны. Узгадаваньня рэлігійнага і маральнага цэлага не было. Безумоўна, думалі толькі каб выжыць. А ў школах таксама ніякага рэлігійнага выхаваньня не было. Так сталася – я апынуўся на Захадзе. Шмат людзей ня ведаў. А ў той час – час фармацыі – я меў шчасьце. І гэта таксама Ласка Божая. Разумееце, мы – вельмі моцна шчырыя беларусы, заўсёды шукаем беларусаў. Пачуеш: «Беларускі сьвятар», і тое, што ён сьвятар, зараз ня важна, важна, што быў беларус.



Вось, я памятаю, першы раз паехаў у Рым. Ужо вайна скончылася, 1945-ы год. Спаткаўся з айцом Чаславам Сіповічам, гэта была яшчэ восень, хіба 1 лістапада 1945-га году. Прыйшоў – малады, энэргічны, па-беларуску прыгожа гаварыў. Як прывітаўся – адразу зрабіў уражаньне. Між іншым, у тым часе былі яшчэ ў Рыме іншыя два сьвятары. Яны толькі прыехалі – уцяклі ад камуністаў. Гэта былі айцец Леў Гарошка і айцец Пётр Татарыновіч. Вось, на другі дзень я з імі сустрэўся. Я б сказаў, што яны зрабілі на мяне ўражаньне вялікае і зусім адметнае ад іншых сьвятароў, якіх я сустракаў раней. Бачыце, яны былі і сьвятары, і беларусы, і інтэлегентныя, з імі можна было гаварыць на розныя тэмы. Яшчэ ў тым часе мяне справа Божая не абыходзіла, але яны зрабілі ўражаньне, шмат далі да думаньня. Я думаю, гэта, можа, быў першы крок такі ў гэтым напрамку.

Мне прыйшлося з імі яшчэ сустракацца. Айцец Сіповіч паехаў у Лёндан. Мы з ім зьблізіліся і пачалі размаўляць на рэлігійныя тэмы. Я пачаў разумець, у чым справа... Паволі гэта ўсё ішло. Я яшчэ быў студэнтам ва ўніверсітэце, вывучаў матэматыку, яшчэ быў далёка ад рэлігіі. Але, відаць, Ласка Божая ўжо працавала. Я неяк аднаго дня сказаў айцу Сіповічу (тады яшчэ айцу – ня біскупу), што хацеў бы быць сьвятаром. Я ўжо пачаў хадзіць рэгулярна ў Царкву, слухаць-выслухоўваць, як усё гэта йдзе, пачаў задумвацца над гэтым. Так што, бачыш, не было нічога сенсацыйнага, гэта быў павольны працэс.

 І вось, недзе ў 1950-я гады (пачатак 50-х гадоў) я падумаў таксама пасьвяціць сваё жыцьцё Богу, паколькі былі сьвятары, якія мне вельмі імпанавалі – а. Сіповіч, а. Гарошка асабліва. Айцец Сіповіч сказаў, што гэта (сьвятарства) магчыма – чаму не, і хацеў мяне тады ў «Русікум» паслаць. Але тут я кажу: «Не, можа, што іншае». Тады прапанаваў «Грэцкую калегію», якая ўсё ж такі гістарычна зьвязана з беларусамі. У XVII і XVIII стагоддзі нашыя студэнты вучыліся ў Грэцкай калегіі ў Рыме, калі была ў нас Уніяцкая Царква.

Напісалі да кардынала Тысэрана, і мяне прынялі. У 1953 годзе я скончыў навуку ў Лондане. Тады я паехаў у Рым. І ня знаю, пасядзеў там, пасядзеў – і стаў сьвятаром. Вось так! Вось гэта ўсё, нічога сенсацыйнага, звычайныя рэчы. Паволі даходзіў да гэтага ўсяго. Ня тое што ў сьв. Паўла! Ну вось тое, што я магу сказаць. І да гэтага часу я застаўся такім: 50 гадоў сьвятару, раблю сваю работу паволі.

Скончыўшы сваю навуку ў Рыме, я вярнуўся ў Лондан. Дапамагаў а. Сіповічу. Розныя ў нас былі ініцыятывы. Трэба было працаваць, бо ўсё ж такі эміграцыйнае жыцьцё – гэта ня ёсьць нармальнае жыцьцё. Ёсьць свае цяжкасьці. Людзі не жылі кампактна, былі раскіданыя, трэба было іх неяк зьбіраць, нешта рабіць. Цяжка да іх дабрацца. Гэткія цяжкасьці засталіся і да гэтага часу. Цяжка. Яшчэ на вялікія сьвяты зьбіраюцца. Лондан – як вялікая вёска, некаторыя раскіданыя паміж сабой на 50-60 км. Ня ўсе маюць магчымасьць кожнага дня дабірацца ў царкву, і мы ня ў праве дамагацца гэтага ад людзей. Такія вялікія адлегласьці, дзе людзі ня маюць магчымасьцяў дабірацца грамадзкім транспартам. Што ўжо гаварыць пра людзей, якія жывуць у іншых гарадах. Дык вось гэта ёсьць цяжкасьці. Зьбіраюцца на большыя сьвяты, на Каляды, напрыклад, ці на Вялікдзень. Яшчэ пытаньне колькі ты можаш даць ім.

Нам хацелася ім даць хоць крыху (і гэта таксама важна, таму што мы – беларусы) – маліцца да Бога на роднай мове. Пыталіся ў мяне: чаму ты ня хочаш стаць рускім? Я адказваў: «Хочаш – ня хочаш, я такі, які ёсьць! Я – беларус». Маўляў, быў бы як усе нармальныя людзі – было б усё ў парадку. Нічога супраць расейцаў ня маю. Проста мне хацелася, каб беларусы славілі Бога на роднай мове. Гэта быў мой пачатак літургічных перакладаў на беларускую мову. Тое, што я вучыўся ў Грэцкай калегіі, таксама дапамагло... Навучыўся грэцкай мовы таксама. Рабіў пераклады і ўжо бачыў, як людзі маліліся на сваёй роднай мове. Хутка паехаў у Лондан і пачаў рабіць пераклады. Паказаў свае першыя пераклады (гэта былі 1960-ыя гады) а. Сіповічу, ён ужо быў біскупам. Яны з а. Гарошкам прачыталі і сказалі: «Што ты, смаркач, абы-чым займаешся, лепшыя за цябе баяцца перакладаць!» Можна было пакорна схаваць у шуфляду і нікому не паказваць. Я ім: «А я і не паказваў нікому!» А пасьля час зьмяніўся. Я выцягнуў з шуфляды і зрабіў добрыя пераклады Літургіі. Тады была кансэкрацыя біскупа Тарасевіча, я паехаў туды, у Чыкага, і там была экценія на беларускай мове. Наш новы біскуп аж падскочыў: «Адкуль ты маеш такі пераклад?!» – «Ну вось, я зрабіў...» – «А ці я магу мець?» Вось тады пачалося ўсё па-беларуску.

**– А раней было па-славянску?**

– Па славянску, так. Апостал і Евангельле па-беларуску, а рэшта – па-славянску. Ня знаю, чаму баяліся перакладаць усё на беларускую мову. Я кажу, што калі Бог хацеў, то чаму ж мы ня можам славіць Бога на роднай мове? Цяпер ужо, здаецца, усюды па-беларуску. Пераклады пакуль што толькі мае. Спачатку я пераклаў нядзельную Літургію, пасьля штодзённыя службы Вячэрні і Ютрані, пасьля сьвяточныя. Яшчэ ня ўвесь камплект, але практычна ўсё, што трэба, скажам, нам для парафій. Гэтага дастаткова пакуль. Дзякуй Богу! Ну вось усё, што магу сказаць. Былі людзі, якім гэта спачатку не падабалася. Яны не разумелі царкоўна-славянскай мовы, але так прывыклі да яе і было нібы ўсё ў парадку. Але пасьля прывыклі да беларускай.

**– Што найбольш патрэбна ў жыцьці семінарысту і ў выхаваньні да сьвятарства?**

– Кожнаму чалавеку трэба, каб жыў з думкаю, што ён знаходзіцца ў прысутнасьці Бога. На гэтым трэба будаваць, гэта аснова. А яшчэ ёсьць дзьве рэчы. Першае, што семінарыст павінен памятаць, што сьвятар – гэта бацька для дзяцей. Ён павінен іх вучыць. А каб навучаць, трэба нешта ведаць самому. Мы павінны дапамагаць людзям ісьці да Бога. Ня мы іх робім – Ласка Божая нам даецца. Мы толькі дапамагаем людзям, стаемся прыладаю, нам дадзена пэўная роля. Але ніхто ня можа даць таго, чаго ня мае. І другое: калі ідзем да Бога – трэба памятаць, што малітва патрэбная ня Богу, а нам. Каб быць з Богам заўсёды, трэба быць чалавекам малітвы, каб людзі бачылі, як мы молімся. Важна асабістая малітва і галоўным чынам малітва эўхарыстычная. Падчас навучаньня ў семінарыі семінарыст вучыцца маліцца, як бы прывыкае да малітвы, яна ўваходзіць у цэнтр нашага жыцьця. Калі ж мы гэтага яшчэ ў семінарыіі ня схопім, то бедныя мы, і бедныя нашыя людзі. Яны гэта бачаць, і калі мы ня ўмеем маліцца, то і іх не зможам навучыць. І адказ дамо ня толькі за сябе, але і за іх. Бо кажуць: «Каму шмат дадзена, з таго больш і спытаецца».

**– Што б Вы хацелі пажадаць беларускім сьвятарам і семінарыстам у нашай працы ва ўмовах сучаснай Беларусі?**

– Найперш трэба быць сьвятарамі Божымі, як бы ні было цяжка, якімі б цяжкімі не былі абставіны. Наша справа – справа Божая. Мы як беларусы павінны любіць свой народ і даць яму тое, што яму належыць. Нашая беларускасьць – гэта дар Божы. Трэба дзякаваць Богу, што мы нарадзіліся беларусамі. Важна данесьці Слова Божае да людзей у найбольш даступны спосаб – на роднай мове.

Размаўляў

**бр. Антон (Нікалаеў), CSsR**

**На фота:**

1. Падчас размовы семінарыстаў з а. Аляксандрам Надсанам.

2. Менск, 23.11.2008. Віншаваньне айца А.Надсана пасьля падзячнай Літургіі ў Чырвоным касьцёле.

3. Менск, 22.11.2008. Семінарысты і сьвятары БГКЦ з а. Аляксандрам Надсанам.

«Разам» - старонкі грэка-каталіцкіх семінарыстаў, выпуск № 4 (32) 2008

# Айцец Аляксандар Надсан - ганаровы доктар ЕГУ

**Сенат Еўрапейскага гуманітарнага ўніверсітэту ў Вільні прыняў рашэньне аб прысуджэньні ганаровага званьня Doctor Honoris Causa а. Аляксандру Надсану, апостальскаму Візітатару для беларусаў-каталікаў у замежжы.**



Гэтым ганаровым тытулам Еўрапейскі гуманітарны ўніверсітэт выказаў «высокую ацэнку навуковых дасьледаваньняў айца Аляксандра ў галіне гісторыі Беларусі і гісторыі хрысьціянства, а таксама належным чынам ацаніўшы ягоны ўнёсак у разьвіцьцё беларускай культуры і пашырэньня ведаў пра Беларусь у сьвеце», паведамляе сайт навучальнай установы.

Цырымонія ўзнагароджаньня прайшла на адкрытым паседжаньні Сенату ЕГУ 27 лістапада 2008 г., у Вільні. Айцец Аляксандар Надсан выступіў з публічнай лекцыяй «Францішак Скарына: еўрапеец у еўрапейскім горадзе».

На цырымоніі было мноства людзей, а пасьля яе да айца Аляксандра доўга нельга было падступіцца, бо студэнты набывалі кнігі і бралі аўтографы.

**На фота:**
27.11.2008. Вільня. Узнагароджаньне а. Аляксандра Надсана ў ЕГУ.

«Разам» - старонкі грэка-каталіцкіх семінарыстаў, выпуск № 4 (32) 2008

# Малітва «Прыйдзі, Госпадзе!»

**«Той, хто сьведчыць гэта, кажа:**
**вось, прыйду неўзабаве!**
**Амін. Так, прыйдзі, Госпадзе Ісусе!**
**Мілата Госпада нашага Ісуса Хрыста**
**з усімі вамі. Амін».**
**(Адкрыцьцё 22, 20-21).**

*Госпадзе! Ты абяцаў, што не пакінеш нас сіротамі, прыйдзеш да нас. Маран ата!*

Сёньня мы просім Цябе: зышлі нам Духа Твайго Сьвятога, каб агонь Тваёй любові запаліў нашыя сэрцы і душы ды раскрыў іх насустрач Твайму Прыйсьцю.

Ты не прыходзіш таму, што мы Цябе не чакаем і ня клічам. Ад сёньня хай ня будзе гэтага! Маран ата!

Усю нашу волю і справы, усе нашыя страхі і пакуты, сьлёзы і сьмех, планы і імкненьні – мы прысьвячаем Твайму Прыйсьцю! У ім адным уся наша надзея.

Ад сёньня мы клічам Цябе: «Так, прыйдзі, Госпадзе! Так, прыйдзі неўзабаве, Госпадзе!

Маран ата!

**а. Пётр Мартэн**